USA 22

У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published by the Byelorussian American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№. 331
Год выд. XXXV

Кастрычнік-лістапад
1986 г.

## «ЗЬВЯЗДА» ПРА КЛЕРЫКАЛІЗМ, НАЦЫЯНАЛІЗМ І «БЕЛБУРНАЦАЎ»

Савецкая прапаганда на Беларусі ўсё больш увагі прысьвячае тэме «клерыкалізму й антыкамунізму», не называючы пры гэтым некаторых рэчаў сваймі імёнамі. У гэтай «антыклерыкальнай» кампаніі і газэта «Беларус» трапіла ў катэгорыю «*клерыкальна*-нацыяналістычных публікацыяў (»Зьвязда«, 8.VII.86).

Спэцыялізуюцца на «клерыкальна-антыкамуністычнай» тэме найбольш два супрацоўнікі газэты «Зьвязда», органу ЦК КПБ, Алесь Бажко й Валянтын Пепаляеў. Летась «Зьвязда» (у нумарох за 1, 10, 12, 16 студзеня, 26 і 31 травеня, 7 і 14 чэрвеня ды іншых) зьмясьціла артыкулы гэтых двух аўтараў у рубрыцы «Клерыкалізм і антыкамунізм». Але партыйная прапаганда рэагуе тут ня гэтулькі супраць клерыкалізму, колькі супраць беларускага нацыяналізму — фактычна, патрыятызму як адказу на русыфікацыю. Беларускія патрыёты ў падсавецкай Беларусі, з пазыцыяў афіцыйнае ідэялёгіі, бароняць культурную самабытнасьць свае нацыі, а таксама права на шырэйшыя сувязі з эўрапейскай клясычнай спадчынай ды з вонкавым сьветам.

Супрацьдзеючы гэтым намаганьням беларускіх патрыётаў, газэта «Зьвязда» ўзяла пад абстрэл (не называючы прозьвішчаў) беларускіх савецкіх дасьледнікаў гісторыі, а разам зь імі і эміграцыйных дасьледнікаў гісторыі Беларусі, якія, паводля Бажка зь Пепаляевам, «арудуюць на задворках буржуазнай гістарычнай навукі». «Белбурнацы» робяць свой разьлік на тое, — пісалі ў «Зьвязьдзе» (7.VI.85) Бажко й Пепаляеў, — што ў нас нехта адгукнецца, пачне атупела бубніць, што сваю гэраічную гісторыю і слаўную культуру ствараў ня сам беларускі народ, не такія яго лепшыя прадстаўнікі, як Георгій (Францыск) Скарына, Васіль Цяпінскі, Мікола Гусоўскі, Казімір Лышчынскі, Сымон Будны і многія іншыя, а магнаты тыпу радзівілаў, сапег, хаткевічаў, агінскіх (зьвяздоўскія пісакі не ведаюць навет, што Хадкевіч пішацца праз «д», а Агінскі — бязь мяккага знаку — А.Б.), якія заўсёды хітра прыкрывалі свае эксплаататарскія фізіяноміі маскамі, 'хрысьціянствуючых цывілізатараў' і да пары да часу вялікадушна 'цярпелі' ў сваіх уладаньнях і нават канцылярыях беларускую мову».

Кожнаму аб'ектыўнаму дасьледніку, аднак, відавочнае ў Бажка зь Пепаляевам прымітыўнае неразуменьне патрэбы гістарызму ў падыходзе да зьяваў мінуўшчыны, і шмат якія гісторыкі савецкае Беларусі аніяк не запярэчваюць выдатнае ролі, якую адыгралі ў тварэньні беларускіх культурных вартасьцяў магнаты Вялікага Княства Літоўскага. Гэтая акалічнасьць найбольш і трывожыць партыйных пісакаў. «На жаль, — прызналіся ў сваім артыкуле ў «Зьвязьдзе» (7.VI.85) Бажко й Пепаляеў, — некаторыя гісторыкі і літаратары (у БССР — А.Б.) усяляк раздуваюць гэтае 'цывілізатарства', дагаворваюцца да 'адзінага патоку духоўнай культуры беларускага народу', да нястрымнага ўсхваленьня так званага 'залатога веку беларускай гісторыі' і тым самым, хочуць яны таго ці не, падмацоўваюць адзін з асноўных тэзісаў беларускіх буржуазных нацыяналістаў аб уяўным 'беларускім нацыянальным росквіце', які нібыта меў месца ў Вялікім Княстве Літоўскім».

(Да гэтай тэмы пра нясугучнасьць афіцыйнай догме паглядаў беларускіх гісторыкаў гл. паведамленьне «Прывід нацыянлізму», «Беларус» № 329).

Сэрыя артыкулаў у «Зьвязьдзе» ў рубрыцы «Клерыкалізм і антыкамунізм», у тым ліку й апошні іхны артыкул («Зьвязда», 8.VII.86), у якім яны пішуць пра «беларускіх буржуазных нацыяналістаў розных папуляцый і адценьняў», — красамоўнае сьветчаньне таго, што ў рэспубліцы цяпер адбываецца грунтоўнае пераасэнсаваньне дасюлешняга дагматычнага насьвятленьня мінуўшчыны беларускага народу ў пошуках сваіх духоўных каранёў, культурных крыніцаў, у тым ліку й крыніцы рэлігійнае духовасьці, як асновы для супрацьдзеяньня дэнацыяналізацыі й дэмаралізацыі, якімі пазначаная сучасная савецкая рэчаіснасьць.

З рэакцыі газэты «Зьвязда» на гэтыя пошукі выразна відаць таксама, што важнае значэньне ў гэтым працэсе аднаўленьня беларускае культурнае спадчыны мае замежная беларусаведа, дасьледніцка-выдавецкая дзейнасьць гэткіх установаў як Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, Англа-Беларускае Таварыства ў Лёндане ды іншыя.

**А. Будзіч**

## СКАРАЧЭНЬНЕ МІСІЯЎ БССР І УССР У ААН

У сявузі з савецкім шпіянажам у Амэрыцы і ў сувязі з тым, што Савецкі Саюз меў у Аб'еднаных Нацыях сваіх прадстаўнікоў больш як ЗША і Кітай разам узятыя (275 прадстаўнікоў савецкіх супраць 125 прадстаўнікоў ЗША і 166 Кітаю), урад Злучаных Штатаў увесну сёлета загадаў Маскве скараціць напрацягу двух гадоў сваё прадстаўніцтва у ААН да 150 асобаў. Да І-га кастрычніка сёлета павінна было выехаць з Амэрыкі 25 савецкіх ааэнаўскіх дэлегатаў. Скарот гэты не крануў дэлегацыяў Беларусі і Украіны. Гэтыя дзьве савецкія рэспублікі маюць у ААН па 12 дэлегатаў кожная. БССР і УССР павінны будуць скараціць свае місіі да 10 прадстаўнікоў кожная да красавіка 1988 году.

## ІГНАТ БУЙНІЦКІ

**(Да 125-годзьдзя ад нараджэньня)**

Яркую старонку ў гісторыю беларускага тэатру пачатку XX стагодзьдзя ўпісала «Першая беларуская трупа», якую стварыў і якой кіраваў Ігнат Буйніцкі (22.VIII.1861-22.IX.1917).

Біяграфічныя весткі пра Буйніцкага даволі скупыя. «Пра яго як чалавека, — пісаў у сваіх успамінах Зыгмунт Абрамовіч, які выступаў у трупе Буйніцкага і быў асноўным драматычным акторам у ёй («Полымя», 1971, № 4), — пра яго перажываньні — і сумныя і радасныя, асабістае жыцьцё — адным словам, пра 'будні' мы ўсе ведаем выключна мала. Вядома толькі, дзе ён нарадзіўся, дзе вучыўся, дзе пачаў працаваць каморнікам. Тое-сёе ведаем пра яго дачок Алену і Ванду. Зь іх вобразамі паўстае перад вачыма любы зяць Ігната Феакцістаў, паводля расказаў — былы харыст мінскага архірэйскага хору, чалавек у музычных адносінах вельмі здольны, правая рука Буйніцкага ў галіне музыкі і харавых нумароў праграмы. Але ўсе гэтыя дэталі не раскрываюць яшчэ асобы Буйніцкага і, на жаль, не даюць яго поўнага вобразу».



*Ігнат Буйніцкі з дочкамі Аленай (пасярэдзіне) і Вандай у часе першай беларускай вечарынкі ў Вільні ў 1910 г.*

Беларуская грамадзкасьць павінна быць вельмі ўдзячная Ўладзімеру Няфёду й Анатолю Сабалеўскаму, якія адшукалі Зыгмунта Абрамовіча ды папрасілі яго напісаць успаміны пра Буйніцкага і ягоную трупу.

Ігнат Буйніцкі нарадзіўся ў шляхоцкай сям'і 22 жніўня 1861 г. ў вёсцы Палівачы Празароцкай воласьці Дзісьненскага павету. Вычыўся ў сярэдніх школах у Рызе, дзе скончыў землямернае вучылішча. Маючы 20 год, дастаў ад свайго бацькі кавалак балотнае зямлі і сваёй няўтомнай працай хутка давёў гэты няўжытак да квітнеючага стану. Праца зблізіла яго з навакольным сялянствам. Гэта й вызначыла далейшы жыцьцёвы шлях Буйніцкага: ён самавызначыўся як Беларус і далёка адыйшоўся ад сваёй радні, крэпка спольшчанай.

Буйніцкаму, як каморніку, даводзілася шмат езьдзіць і хадзіць па Беларусі. Будучы чалавекам простым і таварыскім, ён хутка заваёўваў сымпатыі і заўсёды быў жаданым госьцем у сялянскай хаце — аб гэтым піша ў сваіх успамінах і Зыгмунт Абрамовіч: «А гэтая, 'уласная асоба' Буйніцкага зьлівалася, спалучалася з навакольным жыцьцём. Беларуская вёска ніколі ня была для яго 'экзотыкай', Буйніцкі і складам жыцьця быў чалавек не гарадзкі і добра ведаў усе нягоды, усе цяжкасьці сялянскага асяродзьдзя. Ён у гэтым асяродзьдзі быў свой чалавек — і ў горы і ў радасьці да яго часта ішлі на параду або пагаварыць».

Бязумоўна, больш за ўсё Буйніцкага збліжала зь сялянамі ягонае глыбокае адчуваньне й разуменьне народнай творчасьці. Ён разумеў, што ў беларускім фальклёры тояцца цудоўныя нявыкарыстаныя магчымасьці, якія трэба паказаць людзям. Зь вялікім захапленьнем ён вывучаў народныя песьні й танцы, бяручы ўдзел у вясёлых вечарынках. Надзелены ад прыроды мастацкімі дараваньнямі, Ігнат Буйніцкі лёгка асвойваў зьмест, характар і своеасаблівасьць народных песьняў і танцаў. Гэтая азнаёмленасьць адыграла пасьля выключна важную ролю ў ягонай сцэнічнай дзейнасьці.

Ігнат Буйніцкі быў адным зь ініцыятараў беларускіх вечарынак, якія атрымалі вялікае пашырэньне ў народзе па рэвалюцыі 1905 году. Спачатку Буйніцкі арганізоўваў іх у сваім доме. Зь цягам часу вакол Буйніцкага сабраліся найбольш таленавітыя ўдзельнікі вечарынак — сьпевакі, музыканты, чытальнікі, танцоры, якія склалі сталую трупу з пэўным рэпэртуарам. У 1907 г. Буйніцкі разам з жонкой і дочкамі Вандай і Аленай узяліся за стварэньне ў сваім фальварку Палівачах беларускага аматарскага тэатру.

Неўзабаве Буйніцкі з групай аматараў пачаў наладжваць канцэрты пры вялікім зборы глядачоў, якіх, як кажа Ўладзімер Няфёд у сваёй працы «Беларускі тэатр» (Менск, 1959), «прыцягваў ня толькі сам па сабе канцэрт, але і тое, што 'артысты' гаварылі на іх роднай мове, чаго яны ніколі ня чулі са сцэны». Слава аб тэатры дайшла да Вільні, дзе першае выступленьне тэатру адбылося 25 лютага 1910 году. «Натхнёныя добрым прыёмам гледача, — піша Ўладзімер Няфёд, — удзельнікі трупы Ігната Буйніцкага загараюцца жаданьнем удасканальваць сваё майстэрства, каб аддаць сваё ўменьне народу. У рэпэртуары калектыву паяўляюцца сцэнічныя творы. У гэтым пэрыядзе па сутнасьці ад-

*(Заканчэньне на б. 7-й)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## НЕ ДАЮЦЬ АДЧЫНІЦЬ ЦАРКВУ Ў БЕРАСЬЦІ

**Ліст з Бацькаўшчыны**

*Ад Рэдакцыі: У рэдакцыю газэты «Беларус» быў прывезены нядаўна ліст з гор. Берасьця (Брэст), напісаны парасейску, у якім апісваюцца цяжкасьці праваслаўных вернікаў гораду й навакольля. Вось поўны тэкст гэтага дакумэнту.*

У горадзе Берасьці Беларускай рэспубліцы склалася вельмі цяжкое палажэньне для веручых праваслаўнага веравызнаньня. У горадзе толькі адзін сабор і той невялікі сваёй плошчаю. Царкву, што была на могілках, зьнесьлі, а вялікі Брацкі сабор зачынены ўжо больш за дваццаць гадоў. У горадзе каля 280 тысячаў жыхароў, і зь іх бальшыня — праваслаўныя, ёсьць каталікі ды іншыя плыні (баптысты, сыботнікі і інш.).

Апрача гэтага, ува ўсіх недалёкіх ад гораду вёсках няма сьвятыняў, а ў вёсцы Гершоны ёсьць царква, але яна цяпер перабудаваная ў музэй атэізму і, натуральна, усе вёскі, што ляжаць навокала, прыяжджаюць на багаслужбы ў горад, у наш адзіны Сямёнаўскі сабор.

І вось у нашым Сямёнаўскім саборы бядотнае палажэньне. Нядзелямі й сьвяточнымі днямі ў нас гэтак цесна, што людзі ад нястачы паветра трацяць прытомнасьць. Былі выпадкі траўмаў, шмат разоў было гэтак, што даводзілася выклікаць хуткую дапамогу, і ў выніку гэтай страшной цеснаты частка людзей змушаная стаяць на вуліцы, вонках сьвятыні пры ўсялякім надвор'і (дождж, сьнег, холад).

Другі наш Мікалаеўскі сабор зачынены. як быццам-бы ён выкарыстаны ўладамі пад часткавае перахоўваньне архіву, хоць для гэтага там няма належных умоваў.

Мы, праваслаўныя вернікі, даведзеныя гэткімі абставінамі да адчаю, ужо больш зь пяць гадоў дамагаемся, просім у нашых уладаў аддаць нам нашу Брацкую Мікалаеўскую царкву і абяцаем, што мы яе адрамантуем на свой кошт.

Пачынаючы ад інстанцыяў, мы пісалі ў мясцовыя, рэспубліканскія ды ў інстанцы саюзнага значаньня. Усе нашы калектыўныя хадайніцтвы варочаюцца ў мясцовыя інстанцы, і ў выніку нам адмаўляюць.

Зварачаліся мы ў Міністэрствы да справаў рэлігіі БССР і СССР, пісалі 27-му зьезду, у Вярхоўны Савет СССР, у рэдакцыю газэты «Труд», прасілі нам памагчы, і навет не далі ніякага адказу.

Шмат разоў мы зьбіраліся й хадзілі ў гарвыканком да ўпаўнаважнага ў справах рэлігіі гор. Берасьця, прасілі аддаць нам зачыненую нашу царкву, паколькі ў нашым Сямёнаўскім саборы ня могуць зьмясьціцца ўсе, хто хоча быць на багаслужбе. Нам адказвалі, што яны ведаюць, што ў нас страшэнная цеснага, але яны аддаць нашу царкву ня могуць, бач, калі вам цесна, дык малецеся ўдома.

У крайнім выпадку, мы прасілі выдзяліць нам якое-хаця памешканьне, якое мы пераабсталюем у царкву, і гэтая просьба была адкінутая, нам адказалі, што свабодных памешканьняў няма. Тым часам, у гор. Берасьці ўвесь час ідзе вялікае будаўніцтва, будуюць кінатэатры, рэстараны ды іншае.

Мы ня ведаем, як быць далей і да каго яшчэ зварачацца, усюды нам адмаўляюць і наагул з намі, праваслаўнымі, ня лічацца, а нам вельмі, вельмі цяжка.

## У ДЗЕНЬ ГАЛАДОЎКІ М. КУКАБАКІ

У чацьвер 30 кастрычніка 1986 г. ў Лёндане адбылася перад савецкім пасольствам вахта салідарнасьці зь беларускім вязьнем сумленьня ў Савецкім Саюзе Міхалам Кукабакам. Вахта была арганізаваная міжнароднай арганізацыяй абароны правоў чалавека Амнэсты Інтэрнашэнал (AI).

Лёнданскі аддзел гэтае арганізацыі даведаўся зь ліста, патаёмна вывезенага з Савецкага Саюзу ў 1982 годзе, што Міхал Кукабака, шматгадовы вязень савецкіх лягероў прымусовае працы й псыхбольніцаў, штагоду ў Дзень Палітычнага Вязьня, 30-га кастрычніка, абвяшчае галадоўку ў знак пратэсту супраць пагвалтаваньня ў Савецкім Саюзе правоў чалавека.

Чацьверты год ужо лёнданская група AI далучаецца да галадоўкі Міхала Кукабакі, праводзячы вахту перад будынкам савецкага пасольства, дамагаючыся вызваленьня беларускага іншадумца й дазволу яму выехаць на Захад.

У вахтах салідарнасьці зь Міхалам Кукабакам бяруць удзел, разам з прадстаўнікамі AI, і лёнданскія Беларусы.

З нагоды сёлетняе вахты салідарнасьці прадстаўніца лёнданскае групы AI сп-чна Караліна Пэковэр сказала: «Міхалу Кукабаку сёлета 3-га сьнежня споўніцца 50 гадоў жыцьця. У Міхала слабое здароўе. Адзінае ягонае злачынства — гэта пратэст супраць уварваньня ў Чэхаславакію войскаў Варшаўскага пакту ў жнівені 1968 году ды практыкаваньне свае рэлігіі. Мы спадзяёмся, што нашай салідарнасьцяй зь ім 30-га кастрычніка мы прыцягнем увагу сьвету да ягоных пакутаў, і мы заклікаем савецкія ўлады выпусьціць Міхала Кукабаку на волю».

Пра дэманстрацыю лёнданскі аддзел AI тэлеграмамі паведаміў савецкім газэтам «Правда», «Известия» і «Литературная газета». Арганізатар вахты сп-чна Пэковэр напісала прывітальную картку М. Кукабаку з нагоды ягонага 50-годзьдзя жыцьця. Сярод шматлікіх подпісаў на картцы колькі сказаў было напісана й ад лёнданскіх Беларусаў, якія ўзялі актыўны ўдзел у дэманстрацыі.

**А. Здановіч**

## 45 КМ. АД ЧАРНОБЫЛЯ: «ВАДУ ПІЦЬ З КРАНАЎ НЕЛЬГА»

Беларускі паэт Анатоль Вярцінскі ўзяў удзел у «міжрэспубліканскім літаратурна-прапагандысцкім рэйдзе»: літаратары Украіны, Беларусі й Расеі зрабілі супольнае падарожжа па ніжнім Дняпры й Чорным моры.

На старонках рэдагаванае ім газэты «Літаратура і Мастацтва» (10.Х.86) Вярцінскі падзяліўся сваімі «істотнымі, галоўнымі ўражаньнямі» з падарожжа, прысьвяціўшы найбольш увагі чарнобыльскай трагедыі. Вось што піша Вярцінскі пра новы ўкраінскі пасёлак над Дняпром, Новы Мыс, які знаходзіцца 45 км. ад Чарнобыля ды ў якім пасялілася частка эвакуаваных у выніку аварыі жыхароў.

«Першае, што кідаецца ў вочы, — кажа Вярцінскі, — гэта дэбаркадар (плывучая прыстань для рачных вадаплаваў — рэд. «Б-са») з шыльдай 'Порт Чарнобыль'. Сюды прыбываюць па вадзе грузы, неабходныя для ліквідацыі аварыі, для будаўніцтва пасёлка. Чым перш за ўсё ўражвае пасёлак? Што перш за ўсё заўважаеш? Мабыць, тое, што ўсе яго жыхары ў спэцыяльных вопратках рознага колеру і белых шапачках. Другая вонкавая асаблівасьць — нязвычайнасьць, імправізаваны характар самога паселішча: зьлева, на вадзе — шэраг цеплаходаў і электраходаў, якія сталі часовым жыльлём для чарнобыльцаў, па правы бок ад сьвежаасфальтаванай вуліцы — шэраг зялёных вагончыкаў з надпісамі: 'грамадзкая прыёмная', 'апэратыўная група', 'старшая мэдсястра', 'нэўрапатоляг', 'тэрапэўт' і г.д. Стаіць некалькі будак міжгародняга тэлефону-аўтамата. Кідаецца ў вочы надпіс-перасьцярога: 'Пітную ваду з крана піць нельга'. Так, АЭС (Чарнобыльская атамная электрастанцыя — рэд. «Б-са») усяго за сорак пяць кілямэтраў...»

### АХВЯРЫ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ

Паводля Ўкраінскае Цэнтральнае Інфармацыйнае Службы ў Лёндане, у гарадох Чарнобылі й Прыпяці загінула ад выбуху на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі й радыяцыі «панад 1000 асобаў». «Целы мерцьвякоў былі або спаленыя на месцы або засыпаныя бульдозэрамі ў супольных магілах, — кажацца ў паведамленьні УЦІС.

*(Укр. газ. «Америка», 20.VII.86)*

*Уладзімер Караткевіч*

### «НА БЕЛАРУСІ БОГ ЖЫВЕ»

«На Беларусі Бог жыве», —
Так кажа мой просты народ.
Тую праўду сьцьвярджае раса ў траве
І адвечны зор карагод.
Тую праўду сьцьвярджае
Упартасьць хваль,
І продкаў запавет,
І мовы залатая сталь,
І нашных дум сусьвет.
Тую праўду сьцьвярджае
Ўсім лёсам, —
Няхай спакваля, —
У хмарах дубоў,
У вясёлках агнёў
Купальская наша зямля.
І няхай давядзе мне
Іншая кроў,
Што брашу,
Як сабачы сын, —
А няма нідзе
Вярнейшых сяброў
І прыгажэйшых жанчын.
Гэта край раскрытых душ і дзьвярэй,
Гэты край —
Твой дом і сабор...
Ў нас дваццаць зьлішнім тысяч рэк,
Адзінаццаць тысяч азёр.
Нам ёсьць што піць,
З падмосткаў ліць,
Чым палі свае акрапіць,
А як давядзе, то ёсьць нам дзе
І ворага ўтапіць.
І тая памяць жыве не ў царкве,
А ў кожнай жыве галаве:
«На Беларусі Бог жыве...» —
І хай сабе жыве.
А калі Ён шле на нас кару і гнеў, —
Ну што ж, — мы зь Ім свае:
Ў вяршыні самых гонкіх дрэў
Маланка зь неба б'е.

У вярышыні маленькіх і ніцых дрэў
Маланка ніколі ня б'е.

І пра тое кожны пяе салавей
Росным кветкам у роднай траве:
«На Беларусі Бог жыве», —
І няхай да веку жыве.

*(З кнігі «Ёсьць. Быў. Буду», Менск, 1986)*

### КРЫТЫКА МЕНСКАЙ АТАМНАЙ ЦЭЦ

Атамная цеплавая электрацэнтраль (ЦЭЦ), што будуецца пад Менскам, сталася пасьля Чарнобыльскае трагедыі аб'ектам крытыкі ў савецкім друку ў сувязі зь недаробкамі й адыходам ад стандартаў будаўніцтва. Газэта «Известия» (27.Х.86), у рубрыцы «Вяртаючыся да надрукаванага», зьмясьціла артыкул свайго спэцкарэспандэнта А. Івахнова, які пералічае дэфэкты на будаўніцтве «Менскай атамнай ЦЭЦ», куды, кажа Івахноў, ўваходзіць і прамысловая зона, і жылы пасёлак, і мноства аб'ектаў».

На будаўніцтве Менскай атамнай ЦЭЦ геадэзіст Пётра Макаеў выявіў быў «вялікі лік дэфэктаў будаўлянамантажных работаў і зьвязаных зь імі пераробак». «Паасобныя будынычкі, — паўтарае Івахноў словы з рапарту Макаева, — у сувязі з дапушчанымі дэфэктамі запраўды знаходзяцца ў крытычным стане».

### УГОДКІ САМАГУБСТВА

У жніўні сёлета мінула 25 гадоў ад часу самагубства ў Францыі ў часе турыстычнага падарожжа беларускага савецкага пісьменьніка Ўсевалада Краўчанкі. Краўчанка 27 жніўня 1961 г. выкінуўся з вакна гатэлю ў гор. Кане, у якім турыстычная група зь Беларусі была затрымаўшыся. Усіх у групе было 24 асобы. Самагубца пакінуў запіску, у якой сказаў: «Я канчаю сваё жыцьцё, каб унікнуць несправядлівых абвінавачаньняў і непатрэбных мукаў. Я быў справакаваны маімі асабістымі 'прыяцелямі' на некаторыя словы, якія могуць быць зразуметныя ў пэўным сэнсе як варожыя».

Пра самагубства Ўвсевалада Краўчанкі шырака пісалі францускія газэты, выказваліся розныя меркаваньні аб прычыне ягонае сьмерці. Вялікі матар'ял пра гэта зьмясьціла газэта «Бацькаўшчына» ў нумары 577-578 за 22.Х.1961 г. Нічога пра гэтую трагедыю не напісалі адно савецкія газэты, некаторыя зь якіх толькі падалі аб «заўчаснай трагічнай сьмерці» пісьменьніка.

Хоць сёньня савецкая ўлада дазваляе на большую дозу адкрытасьці ў публічным абмяркоўваньні сучаснасьці й мінуўшчыны, пра самагубства Ўсевалада Краўчанкі маўчыцца — на 25-я ўгодкі ягонае сьмерці ніхто з тых, хто езьдзіў разам зь ім у Францыю ды быў сьведкам трагедыі, не паважыўся адзначыць гэтую сумную дату ды кінуць крыху сьвятла на тыя «несправядлівыя абвінавачаньні», якія змусілі Краўчанку кінуцца з чацьвертага паверху францускага гатэлю.

# «ПАЛІТЫЧНАЯ» БАРАДА ЎЛ. ДУБОЎКІ

**(Да 10-х угодкаў сьмерці 20.III.1976 г.)**

Паэт Васіль Вітка ў артыкуле «Да 85-годзьдзя з дня нараджэньня Ўладзіміра Дубоўкі» («Літаратура і Мастацтва», 12.VII.85) пісаў:

«Гісторыю яго слаўнай, некалі самай прыгожай у нас барады, я запісаў у свой час зь яго-ж слоў.

«Калі жылі яны (г. зн. Дубоўка із сваёй жонкай — В.З.) у глухім сібірскім паселішчы, мясцовыя бабы не давалі праходу яго жонцы:

«— Чай, муж-то у тебя совсем молодой. Смотри, озорной какой да веселый — глаза горят».

І вось, паводля Віткі, Дубоўка, жонцы якога «надакучылі» гэтыя бабскія заўвагі, загадаваў сабе бараду. У Віткі далей чытаем:

«З таго часу і застаўся Дубоўка з барадой, якая потым для многіх з нас зрабілася яго вясёлым і добрым псэўданімам: Барада. Калі сябры між сабой гаварылі: Барада сказаў, Барада прыслаў пісьмо, Барада напісаў новую казку, кожны ведаў, пра каго ідзе гаворка. І калі паведамлялі як радасную вестку, што прыехаў Барада, гэта было сьвятам для яго сяброў таму, што бачыліся мы ня часта: Уладзімір Мікалаевіч жыў у Маскве і ў Мінск прыяжджаў, як правіла, або з новым рукапісам, або з нагоды выхаду ў сьвет новай кнігі».



У сваім успаміне пра Дубоўку Вітка нічога аднак не сказаў чытачу «ЛіМу», зь якое гэта прычыны малады Дубоўка жыў «у глухім сібірскім паселішчы», не сказаў, што Дубоўка быў арыштаваны ў 1930 г. як «нацдэм» і выключаны зь літаратурнага жыцьця блізу на цэлае трыццацігодзьдзе.

Як апісвае гэты пэрыяд Дубоўкавага жыцьця Ант. Адамовіч у кнізе «Апазыцыя саветызацыі ў беларускай літаратуры» (Нью-Ёрк, 1958, праца напісана паангельску), Дубоўка ў гэным часе пісаў ня шмат і найважнейшым творам з гэных гадоў стаўся ягоны «Гімн выгнанцаў», радкі якога гавораць, за каго й за што пакутаваў паэт:

Ніколі нідзе Беларусь не загіне,
Ніколі нідзе Беларусь не памрэ.

У прыхоўваньні праўды пра часы рэпрэсіяў хаваецца й тлумачэньне запаўнднага паходжаньня Дубоўкавае барады. Гісторыю зь сібірскімі бабамі Дубоўка прыдумаў. Дубоўка, трэба ведаць, быў ня толькі выдатным паэтам, але й ня менш выдатным канспіратарам. У запраўднасьці бараду ён насіў як бязупынны напамін пра рэпрэсіяваньне яго, якое ня скончылася з канцом сібірскае ссылкі.

У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку ёсьць архіўны фонд Яўхіма Кіпеля. У 1930 г. Я. Кіпель быў арыштаваны як нацдэм ды правёў у савецкім зьняволеньні дзесяць гадоў. Уладзімер Дубоўка трапіў пад арышт у тым-жа самым часе. Вось як апісвае Кіпель абставіны, у якіх арыштаваным даводзілася жыць, а разам з тым і... загадоўваць ды насіць бароды.

«Прайшло ўжо шэсьць месяцаў ад пачатку арышту. Нас кармілі вельмі дрэнна, мы былі галодныя. Нас не вадзілі ў лазьню, ня стрыглі, нам не мянялі бялізны. У нас паадрасталі бароды й даўгія валасы. Некаторыя з нас прыраклі *насіць бароды* ўвесь час, каб прыпамінаць, праз што нам давялося прайсьці. Найгорш было з зубамі: зеляніны нам не давалі ніякае, пачыналася цынга».

Была сустрэча ў Яўхіма Кіпеля і з Уладзімерам Дубоўкам. У ўспамінах апісваецца этап пасьля менскага астрогу й маскоўскае турмы:

«З Масквы большую частку нацдэмаў адправілі ў Валагодзкую турму. У Волагдзе рыхтавалі вялікі этап у Сібір, і гэты этап назвалі 'акадэмічным', бо была ў ім бадай ці ня выключна інтэлігенцыя. Асабліва вызначаўся шыраказнаны расейскі вучоны Каўрайскі. Атрымаў ён дзесяць гадоў за нібыта сувязь з замежжам.

«Для нас, Беларусаў, была вялікая неспадзеўка — да нас далучылі Ўладзімера Дубоўку. З Дубоўкам мне даводзілася спаткацца ў Менску ў сярэдзіне дваццатых гадоў, але мы зь ім мелі шмат супольных знаёмых. Калі я пабачыў яго цяпер, мне адразу кінулася ў вочы ягоная барада — наша агульная рыса зьняволеньня — ды стомлены, прыгноблены выгляд, хоць постацыю ён і не зьмяніўся ды ў вачох былі агеньчыкі. Я прыцісьнуўся да Дубоўкі, пачаў зь ім гутарку. Але незакончыў я яшчэ й поўнае фразы як атрымаў у сьпіну ўдар прыкладам. Я ўпаў. Два-ж чакісты накінуліся на Дубоўку ды пачалі біць яго прыкладамі. Дубоўкаў твар быў увесь у крыві, кроў пацякла па барадзе, і яго, зьбітага ўшчэнт, адцягнулі. Дубоўку тады-ж з калёны забралі, а я атрымаў яшчэ колькі пінкароў і папярэджаньне, што прыстрэляць, калі хоць раз адчыню рот у калёне. Гэта было маё апошняе спатканьне зь Вялікім Беларускім Паэтам».

**В. Зубкоўскі**

## СЫМПОЗІЮМ ПРА БЯДУЛЮ Й ГАРУНА

У Лёндане адбыўся 4 лістапада 1986 г. сымпозіюм, арганізаваны Ангела-Беларускім Таварыствам і Згуртаваньнем Беларусаў у Вялікабрытаніі на адзначэньне 100-годзьдзя ад нараджэньня Зьмітрака Бядулі й Алеся Гаруна. У залі Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны, куды прыбыло каля 30 слухачоў, прачыталі даклады: праф. Арнольд Б. Макмілін — «Ад імпрэсіянізму да рэалізму: проза Зьмітрака Бядулі»; сп. Джэймс Дынглі — «Проза Алеся Гаруна»; сп-чна Вера Рыч — «Паэзія Зьмітрака Бядулі й Алеся Гаруна». Па дакладах адбылася супольная вячэра, пасьля якое чыталіся вершы абодвух паэтаў.

Як даведваемся ад удзельнікаў, сымпозіюм прайшоў на высокім узроўні й пакінуў вельмі добрае ўражаньне. **А. З.**

# «ДЗЕ МОЙ ДОМ?»

Нельга сказаць, што беларуская проза першых чытырох месяцаў сёлетняга году парадавала чытача вялікімі літаратурнымі набыткамі. На фоне гэтага творчага зацішша аповесьць Артура Цяжкага пад загалоўкам «Дзе мой дом?» вылучаецца як-бы сама сабою.

На першы пагляд здавалася-б, што Артур Цяжкі (які, нажаль, памёр летась у веку 42 гадоў) нічога новага ў гэтай аповесьці нам не адкрыў ні ў пляне тэмы, ні ў пляне падачы матар'ялу. Але гэта толькі на першы пагляд.

Тэма аповесьці «Дзе мой дом?» — самасьцьверджаньне чалавечай індывідуальнасьці, дасьледаваньне шляхоў чалавечага духу. У распрацоўваньні гэтае тэмы аўтара мала цікавіла пасьле перажываньня, ён больш увагі надае полю дзеяньня. І гэтым, бадай, абумоўленая наша павышаная цікавасьць да напружаных сытуацыяў у жыцьці гэроя аповесьці Максіма.

Максім — журналіст, працуе, як відаць з твору, у рэдакцыі нейкай абласной газэты. Максім — не прыстасаванец, не кар'ерыст, ня п'яніца, і ня дон-жуан. Ён — звычайны прадстаўнік беларускае інтэлігенцыі ў першым пакаленьні. Нарадзіўся ў вёсцы, там атрымаў адукацыю, скончыў факультэт журналістыкі ды сваім мазалём пачаў зарабляць сабе на жыцьцё ў рэдакцыі газэты.

Склалася ці не, тое жыцьцё ў Максіма, сказаць цяжка. І так, і не. У сямейным пляне ня склалася — разьвёўся з жонкаю; у рэдакцыі таксама Максімавы крытычныя матар'ялы ня вельмі дапушчалі да друку, бо-ж замахваўся малады журналіст крытыкаваць ня толькі простых рабочых і сялянаў, але й дырэктараў прадпрыёмстваў. Але вось на маральную чысьціню, на зоркасьць, на сілу выжыць у складанай сытуацыі Максіму пашанцавала. Ёсьць у Максімавым характары цьвярды нутраны стрыжань, які і не дазваляе яму пáдаць на г. зв. атруту жыцьця, на розныя кампрамісы, якімі гэтак перапоўненае навакольнае асяродзьдзе. Максім добра сабе ўсьведамляе, што яму патрэбнае ў жыцьці, а што трэба адкінуць. Як і належыцца беларускаму журналісту, Максім любіць і паважае сваё роднае, захапляецца беларускай літаратурай, любіць мову і тых сялянаў, што гутараць ёю, іхныя песьні, рамёствы, побыт і мараль.

Максім, апынуўшыся ў горадзе, ня змог пераўвасобіцца ў гараджаніна, ня змог адмовіцца ад сваіх звычак, перарабіць свой характар, сваю псыхалёгію вяскоўца. Жывучы й працуючы ў горадзе, Максім заставаўся жыхаром тае Малое Зямлі, зь якое ён выйшаў. Але ён ня быў і, так сказаўшы, сенам на асфальце. Максіму горад падабаўся, але ён ня мог прыняць гарадзкіх звычак, асабліва звычак тых, хто адрокся ад вёскі. Максім ніяк ня мог зразумець аднаго: як гэта можна адрачыся ад свайго мінулага? Разам з тым не разумеў Максім і таго, як можна ў адным характары сумясьціць горад і вёску, як спалучыць сучаснасьць і мінулае?

Трэба прызнаць, што ў аналізе гэтае дылемы, гэтага маральнага раздарожжа празаік Артур Цяжкі не паграшыў супраць ісьціны — сапраўды падобныя думкі, падобныя сытуацыі паўстаюць сёньня перад шмат якімі сынамі й дочкамі беларускай зямлі. І гэрой аповесьці Артура Цяжкага Максім у гэтым сэньсе — тыповы.

Разьвязаць гэтае войстрае пытаньне сучаснасьці — «Дзе мой дом?» — гэрою аповесьці (а гэта значыць, і пісьменьніку) вельмі цяжка. У горадзе Максіму жыць абрыдла, але й адарвацца ад яго нельга. Апынуўшыся ў часе адпачынку ў сваёй вёсцы, дзе ўсё міла — і маці, і прырода, і хата, і памяць мінулага — Максім усё-ж пастанаўляе вярнуцца ў горад, у якім будзе з замілаваньнем думаць пра вёску.

Якое-ж стаўленьне самога аўтара да гэтае духовае дылемы свайго гэроя? А стаўленьне даволі выразнае. Прызнаюся, ніколі яшчэ не даводзілася чытаць у сучаснай беларускай бэлетрыстыцы падобнага суровага, сумнага, але адначасна й цьвярозага пагляду на гэтую праблему.

Вось-жа, на думку празаіка, нельга вярнуць тое, што было ў мінулым. Артур Цяжкі ўважае, што зварот у мінулае, якім-бы родным гэтае мінулае ні было, як-бы яно ні падмацоўвала чалавека духова й маральна, колькі-б чалавек ні думаў пра яго, зварот у мінулае немагчымы. Гэтая канцэпцыя распаўсюджваецца бадай на ўсё, пра што апавядаецца ў аповесьці «Дзе мой дом?» Пісьменьнік, малюючы нам свайго гэроя, не выстаўляе ілюзію наконт звароту ў мінулае, але не дае выразнае пэрспэктывы й на будучыню. Максім, як быў на раздарожжы, гэтак на раздарожжы й застаецца. Куды ён пойдзе, што зь ім будзе заўтра, Максім гэтага ня ведае, хоць і шукае актыўна адказу на гэтыя пытаньні.

З усяго відаць, што абток памяці аб сваім мінулым, якога яшчэ не захліснулі ў сьведамасьці Максіма хвалі сучаснасьці, з часам можа быць затоплены. Каб не дапусьціць да гэтага, Максім едзе ў сваю вёску і запісвае фальклёр, запісвае галасы старых людзей, каб і для сябе і для нашчадкаў захаваць песьні, мудрасьць народу, ягоную мову.

Аповесьць Артура Цяжкага «Дзе мой дом?» — твор, бясспрэчна, неардынарны ў сучаснай беларускай бэлетрыстыцы. Празаік паказаў нам характар, які здольны яшчэ змагацца, а ня проста плысьці па цячэньню цывілізацыі, часамі нават не задаючы сабе пытаньня: куды плыву, чаго плыву ды што будзе з намі заўтра?

**Алесь Васілеўскі**

## БЕЛАРУСІКА Ў АМЭРЫКАНСКІХ БІБЛІЯТЭКАХ

Рыхтуючыся да ўдзелу ў сёлетнім гадавым зьезьдзе амэрыканскіх славістаў, сп-тва Вітаўт і Зора Кіпелі адведалі шэраг большых бібліятэкаў Злучаных Штатаў, каб прааналізаваць у іх фонды беларусікі. Сп-тва Кіпелі наведалі публічныя бібліятэкі гарадоў Бостану й Клііленду, Бэрклей, Сан-Францыска й бібліятэкі Гарвардзкага, Прынстанскага, Стэнфардзкага, Карнэльскага й Калюмбійскага унівэрсытэту, бібліятэкі штатавых унівэрсытэтаў Мічыгану, Агаё, Заходня Вірджыніі, Паўночнай Караліны, Пэнсыльваніі, а таксама ў-ту імя Брауна ў Масачусэтсы ды Д'юксага ў-ту ў Паўночнай Караліне.

У бібліятэках гэтых былі выяўленыя багатыя фонды беларусікі як кніжнае, гэтак і архіўнае. Беларусіка па гэтых бібліятэках (якія цяпер спалучаныя камп'ютарнай сыстэмай, што вельмі аблягчае карыстаньне імі) становіць удзячны грунт да беларусаведных дасьледаваньняў.

Пра кніжныя архіўныя багацьці ў амэрыканскіх бібліятэках будзе з часам расказана на старонках газэты «Беларус».

**НАЙЛЕПШЫ КАЛЯДНЫ АБО НАВАГОДНІ ПАДАРУНАК — БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАНЬНЕ.**

# СЯМНАЦЦАТАЯ СУСТРЭЧА

(Працяг з № 330. Праграму Сустрэчы гл. у № 329. Матар'ялы да справаздачы ў гэтым нумары прыслалі: сп. Антон Шукелойць, сп-ня Зора Кіпель, сп. Кастусь Калоша, др. Уладзімер Бакуновіч, сп. Міхась Тулейка, др. Язэп Сажыч, сп. Аляксандар Міцкевіч, сп-чна Раіса Станкевіч, сп. Мікалай Ягаўдзік, др. Вітаўт Кіпель).

### АДЧЫНЕНЬНЕ СУСТРЭЧЫ

Сустрэча пачалася ў сыботу 30 жніўня а гадз. 9-й раніцы на беларускім селішчы Полацак, што каля гор. Клïўленду, урачыстым падняцьцём сьцягоў сябрамі Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў (ЗБАВ) пад камандай маёра Міхася Тулейкі. Сыботні дзень Сустрэчы быў прызначаны для працы розных арганізацыяў і ўстановаў, якія, карыстаючы з нагоды Сустрэчы, адбылі свае зьезды й нарады.



*Сінявокія «васількі» ў заліхвацкім карагодзе.*

### НАРАДА ВЭТЭРАНАЎ

Нарада адбылася ў залі селішча Полацак пад старшынствам кап. Міколы Ягаўдзіка, кіраўніка клïўлендзкага аддзелу ЗБАВ. Справаздачу зь дзейнасьці Галоўнай Каманды Задзіночаньня прачытаў маёр М. Тулейка ад імя няпрысутнага з прычыны хваробы старшыні Задзіночаньня маёра Сяргея Гутырчыка. Із справаздачы было відаць, што вэтэранская арганізацыя дзейная й дынамічная. Яна супрацоўнічае з Радай Нацыянальнае Бясьпекі ў Вашынгтоне ды амэрыканскімі вэтэранскімі арганізацыямі.

Пра значаньне гэтага супрацоўніцтва й важнасьць перахоўваньня вайсковых традыцыяў гаварыў на нарадзе Старшыня рады БНР др. Язэп Сажыч. Прамаўляў на нарадзе таксама сп. Кастусь Акула, рэдактар часапісу «Зважай». Усе выказалі поўнае задаваленьне зь дзейнасьці ЗБАВ ды падалі рад добрых прапановаў што да далейшае працы.

Ува ўсіх іншых праграмах Сустрэчы вэтэраны бралі поўны ўдзел ды задэкляравалі быць у яшчэ большай колькасьці на наступнай Сустрэчы.

### СЭСІЯ РАДЫ БНР

Маючы на ўвазе люднасьць Сустрэчаў папярэдніх, лічны ўдзел у іх сяброў Рады БНР з Амэрыкі ды іншых краінаў, Прэзыдыюм Рады пастанавіў правесьці чарговую 18-ю Сэсію Рады ў часе 17-й Сустрэчы. Сэсія адбылася ў сыботу 30-га жніўня на Полацку.

Справаздача Старшыні Рады др. Я. Сажыча зь дзейнасьці Прэзыдыюму Рады за апошнія два гады, а таксама справаздача Галоўнага Скарбніка сп. Віталя Кажана былі прынятыя з ухвалаю й падзякай. Адбыўся пазытыўны абмен думкамі аб пляне далейшае працы ды патрэбных арганізацыйных зьменах.

Пастаноўлнена наступную чарговую сэсію Рады БНР правесьці ў 1988 г. ў часе сьвяткаваньня 70-х угодкаў Акту 25-га Сакавіка ў Нью-Ёрку.

Зь іншых пастановаў Сэсіі трэба адзначыць згоду на фінансаваньне із Скарбу БНР выданьня інфармацыйнае літаратуры ды матар'ялаў пра беларускі вызвольны рух і гісторыю БНР.

### НАРАДА РЭСПУБЛІКАНСКІХ КЛЮБАЎ

Нарада была скліканая кіраўніцтвам Фэдэрацыі Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў (старшыня інж. Васіль Мельяновіч, заступнік — сп. А.) і клïўлендзкім аддзелам Фэдэрацыі (старшыня сп. Янка Раковіч). На нарадзе была абмеркаваная дзейнасьць Фэдэрацыі ды ўдзел Беларусаў-рэспубліканцаў у выбарах 1986 й 1988 гадоў.

### ЗЬЕЗД АРГАНІЗАЦЫІ МОЛАДЗІ

У сыботу адбыўся таксама 22-гі зьезд Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі (АБАМ). За старшыню зьезду была абраная сп-чна Рагнеда Яраховіч, за сакратара — сп-ня Нона Азарка. Пратакол з папярэдняга зьезду чытала сп-чна Галіна Бахар. Сход прызнаў дзейнасьць галоўнай управы арганізацыі пад старшынствам інж. Юркі Азаркі задавальняючай і выказаў кіраўніцтву АБАМ падзяку. Прысутныя на зьезьдзе госьці з Эўропы (Беларусы зь Беласточчыны, сп. Янка Мойсік з Ватыканскага радыё дыҐ нш.) былі захопленыя працай моладзі ў Амэрыцы.

У справаздачы клïўлендзкага аддзелу было паведамлена, што аддзел пастанавіў пабудаваць плавальны басэйн на Полацку. Цікавы спосаб зьбіраньня грошай на гэты праект: клïўлендзкія сябры АБАМ дасталі канцэсію на славутым стадыёне Клïўленд Індыенз на продаж там ежы. Прыбытак з продажу пойдзе на фінансаваньне пабудовы басэйну.

Сход прыняў пастанову выдаваць заміж часапісу «Беларуская Моладзь» раз на два месяцы інфармацыйны бюлетэнь.

У новую галоўную ўправу АБАМ былі выбраныя: Юрка Азарка — старшыня, Віктар Тур — заступнік, Галіна Бахар і Уля Шульжыцкая — сакратары, Вера Запруднік — скарбнік, Павал Рамана — рэфэрэнт вонкавых справаў, Міхась Дунец — сябра.

### СЫМПОЗІЮМ «НАША НІВА»

Падчас апошняе Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Клïўлендзе адбыўся сымпозіюм, прысьвечаны 80-ым угодкам ад выхаду першага нумару газэты «Наша Ніва» (лістапад 1906 г.). Кіраўніком сымпозіюму была др. Раіса Жук-Грышкевіч.

У прадмове да сымпозіюму др. Жук-Грышкевіч вельмі трапна схарактарызавала газэту «Наша Ніва». Яна сказала: «Калі-б ня было газэты 'Наша Ніва' — ня было-б Акту 25-га Сакавіка, ня было-б БССР, ня было-б і нас тут». З гэтым цьверджаньнем нельга не пагадзіцца.

Сымпозіюм складаўся з чатырох дакладаў, а таму й затрымаемся над кажным дакладам у храналягічным парадку, як яны былі прачытаныя.

Вера Рыч: «'Наша Ніва' — аналёгія 1906-1986». У дакладзе сп-чна Вера Рыч выказала думку, што газэта «Наша Ніва» ставіла перад сабой заданьне выціснуць паняцьце «тутэйшыя», якое ў пэўнай меры пачало было ўжывацца ў якасьці нацыянальнага назову, а на яго месца ўвесьці назоў "Беларусь», «Беларусы», дакладней кажучы, «Наша Ніва» ставіла перад сабою заданьне ратаваць Беларускі Народ над нацыянальнай сьмерці.

Аналёгію-ж паміж 1906-м годам, калі шалела царская русыфікацыя, і 1986 годам, калі масы беларускіх гарадзкіх і местачковых дзяцей змушаныя хадзіць у школы з чужой мовай навучаньня, дакладчыца бачыць у тым, што на тэрыторыі колішняе царскае імпэрыі валадары зьмяніліся, але мэта русыфікацыі засталася нязьменнай.

Вера Рыч зазначыла таксама, што апрача духовага вынішчэньня, якое пагражае беларускай нацыі цяпер, як гэта было і ў часох «Нашай Нівы» — сягоньня Беларусі пагражае й вынішчэньне біялягічнае і Чарнобыль — добры напамін аб гэтай небясьпецы. (Дарэчы, сп-чна Вера Рыч у верасьні сёлета выступала з дакладам аб чарнобыльскай катастрофе на спэцыяльнай сэсіі Міжнароднага Агенцтва Атамнае Энэргіі ў Вене.)

У дакладзе «'Наша Ніва' як крыніца ўзбагачаньня сучаснага культурнага працэсу на Беларусі» др. Янка Запруднік паказаў на адну з прычынаў зьбедненасьці культурнага працэсу ў сучаснай Беларусі — недапушчаньне беларускіх навукоўцаў да дасьледаваньня культурна-ідэйнага аспэкту газэты «Наша Ніва».

Др. Раіса Жук-Грышкевіч у дакладзе «Алёйза Пашкевіч-Цётка, беларуская паэтка й грамадзкі дзеяч» надзвычай добра й падрабязна прааналізавала жыцьцё, творчасьць і палітычную дзейнасьць паэткі ды паказала, як газэта «Наша Ніва», як той магніт, прыцягвала да сябе людзей пяра й гуртавала іх навокал сябе.

Др. Кіпель у дакладзе «'Наша Ніва' й беларуская эміграцыя ў Амэрыцы» першы зьвярнуў увагу на тое, што газэта «Наша Ніва» памагала парадамі Беларусам, якія выэміґравалі ў Злучаныя Штаты, ды тым, якія зьбіраліся эміграваць. Газэта трымала цесны кантакт зь Беларусамі ў Амэрыцы й мела сваіх дапісчыкаў і карэспандэнтаў у кажным штаце, дзе толькі знаходзіліся Беларусы.

Большай паважнасьці й цікавасьці сымпозіюму надавала выстаўка арыгінальных нумароў газэты «Наша Ніва», па тры нумары з кажнага году. І хоць на гэным даўжэзным стале стаяў надпіс «Просьба не датыкацца рукамі», шмат хто, у тым ліку й аўтар гэтых радкоў, просьбе гэтай не падпарадкаваўся, ня вытрымаў — узяў у рукі й перагарнуў моцна пажоўклыя старонкі. Хацелася хоць патрымаць у руках гэту нашу беларускую сьвятасьць.



*Сьпявае Данчык, нашчадак выдаўцоў «Нашай Нівы».*

### БАГАСЛУЖБЫ

Другі дзень Сустрэчы, нядзеля 31 жніўня, пачаўся багаслужбамі. А гадз. 9-й ураньні а. Прат. Аляксандар Надсон у аднэй з заляў Полацку адправіў Божую службу для Беларусаў-каталікоў. А а гадз. 10-й у царкве БАПЦ Жыровіцкай Маці Божай у Клïўлендзе была адслужаная Першагіерархам БАПЦ Архіепіскапам Мікалаем у суслужэньні а. Прат. Аляксандра Яноўскага, а. Прат. Карпа Стара ды настаяцеля клïўлендзкага прыходу а. Міхася Страпка сьв. Літургія. Прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. Кастуся Калошы. Трэба з прызнаньнем адзначыць факт, што абедзьве багаслужбы адбываліся ў жывой беларускай мове.

### БАНКЕТ

У гатэлі «Галыдэй Ін», што недалёка ад селішча Полацак, у нядзелю папаўдні адбыўся банкет і канцэрт.

Старшыня галоўнае ўправы БАЗА сп. Антон Шукелайць, вітаючы гасьцей і ўдзельнікаў за бяседнымі сталамі, папрасіў Яго Высокапрэасьвяшчэнства Ўладыку Мікалая пачаць банкет малітваю ды, пасьля прывітальнага слова Ўладыкі Мікалая, перадаў вядзеньне праграмы др. Вітаўту Кіпелю.

Др. Кіпель, гаворачы пра значаньне юбілеяў, што былі ўзятыя за тэму сустрэчы — 100-годзьдзе Статуі Свабоды і 80-годзьдзе «Нашай Нівы» — адзначыў, што «ў аснове самболікі гэтых двух юбілеяў ляжаць людзкія правы й грамадзянскія свабоды, якіх мы дамагаемся для Беларускага народу».

Пасьля маладыя клïўленцы прачыталі два прывітаньні: сп-чна Рагнеда

# БЕЛАРУСАЎ ПН. АМЭРЫКІ

Дунец прачытала пасланьне ад Прэзыдэнта ЗША Рональда Рэйгана (гл. у папярэднім нумары «Беларуса»), а сп. Мікола Ягаўдзік — ліст ад старшыні Фундацыі для аднаўленьня Статуі Свабоды Лі Аякокі, у якім Аякока дзякуе Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню за ўдзел у зборы фондаў на аднаўленьне Статуі Свабоды ды перадае пажаданьні ўдачы ўдзельнікам Сустрэчы.

Ад Згуртаваньня Беларусаў Канады, сугаспадара Сустрэчы, вітала ўдзельнікаў старшыня ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч. Сваю прамову яна прысьвяціла вялікай ролі газэты «Наша Ніва» ў нацыянальным усьведамленьні Беларусаў ды абвешчаньні дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі Актам 25 Сакавіка 1918 году.

Італіі сп. Янку Мойсіка, працаўніка Беларускае сэкцыі Ватыканскага радыё; групу Беларусаў зь Беласточчыны; др. Баляслава Грабінскага, ведамага беларускага дзеяча ў былой Заходняй Беларусі, які сёлета адзначыў 75-годзьдзе ад уступленьня ў першую беларускую арганізацыю моладзі на эміграцыі; пісьменьнікаў Кастуся Акулу, Яна Пятроўскага, Янку Юхнаўца, Масея Сяднёва, Аляксандру Саковіч, Міколу Сэр-Прускага; старшыняў беларускіх арганізацыяў: сп. Антона Бяленіса, старшыню Задзіночаньня Беларусаў штату Іліной; спню Веру Рамук, сакратара Каардынацыйнага Камітэту беларускіх арганізацыяў у Чыкага; сп. Кастуся Мерляка, старшыню Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня ў Нью-Ёрку; сп. Франьцішка Бартуля, старшыню Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага; інж. Юрку Азарку, старшыню Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі; сп. Міхася Тулейку, заступніка стыршыні Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў; сп. Міколу Грэбеня з Пэнсыльваніі; сп. А. і сп. Кастуся Вайцяхоўскага з Каліфорніі; др. Лявона Трусэвіча з Флярыды; сп. Л. і К. Норыкаў і сп. Ю. Корчыка з Масачусэтсу; сп-тва Кажаноў з Канэтыкэту; сп-тва Плескачоў і матушку М. Войтанка зь Мічыгану; сп. С. Шабовіча з Тэксасу ды сп. А. Акановіча зь Люізіяны.



*Прыемнасьць сустрэчы старых сяброў: др. Лявон Трусэвіч (зьлева), др. Язэп Сажыч, мгр. Мікола Ягаўдзік, др. Вітаўт Рамук.*

Др. Язэп Сажыч, Старшыня Рады БНР, у сваім прывітаньні зьвярнуў увагу на вялікае палітычнае значэньне Сустрэчаў Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. «Сустрэчы, — сказаў др. Сажыч, — сталіся вялікай нашай традыцыяй і набіраюць усё большага значаньня ў сэнсе магчымасьці абладжваньня на іх шмат якіх арганізацыйных справаў. У сувязі-ж з удзелам у Сустрэчах прадстаўнікоў беларускіх асяродкаў зь іншых краінаў Сустрэчы набываюць характар беларускіх 'сусьветных зьездаў'».

Др. Кіпель, вітаючы а. Прат. Аляксандра Надсона, дырэктара Беларускай Бібліятэкі й Музэю ў Лёндане, прадставіў гасьця як нядаўна прызначанага Папам Янам Паўлам Другім Апостальскага візытатара для Беларусаў-каталікоў у Вольным Сьвеце, пажадаў а. Надсону плённай працы на гэтак важным для беларускае справы становішчы ды запрасіў гасьця да слова.

Айцец Надсон выказаў задаваленьне з добра арганізаванае Сустрэчы, з багатай праграмы ды вялікае колькасьці ўдзельнікаў. Прамоўца зьвярнуў увагу на важнасьць перахоўваньня эміграцыяй нашай духовай спадчыны, народных звычаяў, мовы, якія цяпер ганьбуюцца й вынішчаюцца прыгнятальнікамі на Бацькаўшчыне.

У перапынках паміж прамовамі др. Кіпель прывітаў прысутных на банкеце гасьцей зь іншых краінаў, пісьменьнікаў, заслужаных беларускіх працаўнікоў, старшыняў арганізацыяў: праф. Карла Бануты, прадстаўніка мэра гор. Клііўленду й Этнічнай Рады штату Агаё; матушку Зою Смаршчок з сынам Пятром і сп. Пятра Барысіка з Бэльгіі; з Францыі ведамага мастака Міхася Наўмовіча; зь

У канцы банкету сп. А. Шукелайць гаварыў аб значэньні Сустрэчаў. «Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, — сказаў прамоўца, — гэта спатканьні ня толькі даўных сяброў і знаёмых, але й спатканьні з нашым абвязкам трымаць цесную лучнасьць міжсобку ды з нашай нацыянальна-палітычнай місіяй нагадваньня Заходняму сьвету аб тым, што існуе Беларуская Праблема, што беларускі народ знаходзіцца ў паднявольным стане, што Беларусы змагаюцца за свае палітычныя, эканамічныя, нацыянальна-культурныя й рэлігійныя правы, што Беларусы на Бацькаўшчыне ў іхным змаганьні чакаюць дапамогі ад свае эміграцыі, ад урадаў ЗША, Канады ды іншых заходніх краінаў.

«Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі нагадваюць нам, — сказаў старшыня БАЗА, — што мы, як палітычная эміграцця, маем абавязак і маем магчымасьць дапамагаць беларускаму народу ў цэласьці ды Беларусам упаасобку ў іхным змаганьні за свабоду, у іхнай самаабароне».

Сп. Шукелайць паведаміў, што ў сувязі з чарнобыльскай трагедыяй, у выніку якое моцна пацярпела жыхарства паўдзённых раёнаў Беларусі, у Злучаных Штатах утварыўся адмысловы камітэт, які будзе старацца дапамагчы ахвярам чарнобыльскае аварыі, ды заклікаў Беларусаў Амэрыкі падтрымаць справу гэтае дапамогі.

У канцы свайго выступленьня старшыня БАЗА прачытаў прывітаньне Сустрэчы ад рэдакцыі газэты «Беларус» ды паведаміў аб атрыманых прывітаньнях. Прывітаньні прыслалі мэр гор. Кліўленду Джордж Вайновіч; сп. Янка Міхалюк, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі; сп. М. Зуй ад сябе й сваіх сяброў у Аўстраліі; сп. Д. Касмовіч ад імя Беларускага Вызвольнага Фронту; сп. М. Скабей ад імя Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі (Аўстралія); праф. Майкл Пап, дырэктар Інстытуту Вывучэньня Савецкага Саюзу й Усх. Эўропы пры Унівэрсытэце імя Дж. Караля ў штаце Агаё; сп. Міхась Раецкі, кіраўнік беларускае радыяпраграмы ў гор. Пэрце ў Аўстраліі.

Банкет закончыўся прыняцьцём рэзалюцыі, якую прачытаў др. Кіпель ды якая была ўхваленая гучнымі воплескамі (тэкст рэзалюцыі гл. у папярэднім нумары «Беларуса»).

### КАНЦЭРТ

Па банкеце ў тэй-жа залі гатэлю «Гальдэй Ін» адбыўся канцэрт, багатая прагмара якога складалася з выступленьняў кліўлендзкага жаноцкага ансамблю «Васілёк» пад кіраўніцтвам сп. Кастуся Калошы й жаноцкі кварэтэт з Кліўленду. Акампанявала ім на піяніне сп-ня Оля Дубаневіч-Макдэрмат. Хор і квартэт прыгожа выканалі беларускія народныя й патрыятычныя песьні.

Папулярны танцавальны ансамбль «Васілёк» зь Нью-Ёрку пад кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана выступіў з трыма народнымі танцамі.

Выдатны сьпявак-гітарыст Данчык Андрусышын захапляў слухачоў новымі песьнямі ў сваім рэпэртуары: «Жураўлі на Палесьсе лятуць», «Ночка над Шчарай», «Не за вочы чорныя» ды на біс — нумары із свайго старога рэпэртуару. Апрача гэтага, Данчык з пачуцьцём прадэклямаваў два вершы: «Новы волат» Эмы Лазарус у перакладзе Натальлі Арсеньневай ды верш Арсеньневай «Да моладзі».

Праграма дня закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

### ВЫСТАЎКІ

Адна з заляў Полацку была прызначаная на выстаўкі ды продаж мастацкіх вырабаў і публікацыяў.

Апрача згадванай ужо багатай выстаўкі, арганізаванай др. В. Кіпелям і прысьвечанай «Нашай Ніве», тут уладзілі свае стэнды сп-ня Юля Андрусышына зь Нью-Ёрку з вышыванымі беларускім народным арнамэнтам кашулямі, гальштукамі, альбомамі, тэлэфоннымі кніжкамі, лялькамі, ды сп. Мікола Шуст зь Лёндану (Канада) з рознымі інкруставанымі саломкай вырабамі (гл. ніжэй здымак), а таксама розныя арганізацыі й выдавецтвы зь беларускімі кніжнымі выданьнямі ў вольным сьвеце (Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, «Беларус», «Пагоня», Англа-Беларускае Таварыства ды іншыя).



*Багаты плён працавітых рук: народны ўмелец сп. Мікола Шуст із сваймі вырабамі.*

**СЁМЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ АДБУДЗЕЦЦА Ў МЭЛЬБУРНЕ 6-10 СТУДЗЕНЯ 1987 ГОДУ**

## ВЫСТАЎКА: «БЕЛАРУСЬ І ЕЙНЫЯ КНІГІ»

У канцы кастрычніка сёлета ў Монашскім Унівэрсытэце ў гор. Мэльбурне ў Аўстраліі адчынілася выстаўка беларускай кнігі. Выстаўку арганізаваў Факультэт Славянскіх Моваў унівэрсытэту з удзелам прафэсара Марвана ў супрацоўніцтве зь мясцовай беларускай грамадой, асабліва із сп.сп. М. Ніканам і М. Скабеем. Выстаўка будзе трываць да сакавіка 1987 году. На выставачных стэнах разьмешчаны каля 200 публікацыяў друкаваных як у БССР, гэтак і вонках Савецкага Саюзу. На выстаўцы таксама шмат экспанатаў беларускага народнага ўмельства: ткацтва, інкрустацыі, разьбы. Гэткага памеру выстаўка беларускага друку й народных вырабаў — першая ў Аўстраліі, і гэта вялікае дасягненьне нашых суродзічаў.

Выстаўка беларускай кнігі ў Мэльбурнскім унівэрсытэце выдатна дапаўняе праграму сёлетняе 7-ае Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі.

Праф. Марвану ды ўсім іншым удзельнікам арганізацыі выстаўкі належыцца шчырая падзяка. Рэдакцыя »Беларуса» чакае на рэпартажы пра выстаўку ды ўражаньні ад яе.

# СУСТРЭЧА З АЙЦОМ А. НАДСОНАМ



У нядзелю 14-га верасьня 1986 г. а. Прат. Аляксандар Надсон быў гасьцём Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью-Брансьвіку, штат Нью-Джэрзы. Пры помніку гэроям Беларусі на беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку а. Аляксандар адслужыў паніхіду за тых, што аддалі жыцьцё ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі, ды сказаў прынагодную пропаведзь.

Пасьля ў залі Беларускага рэлігійна-грамадзкага цэнтру ў Гайленд-Парку адбылася ў гонар гасьця бяседа, якую адчыніў, вітаючы а. Надсона, кіраўнік ЗБАВ маёр Сяргей Гутырчык. У часе бяседы прамаўлялі й віталі а. Надсона зь ягоным прызначэньнем за Апостальскага Візытатара для Беларусаў-каталікоў на эміграцыі: сп.сп. А. Шукелайць, В. Русак, Ул. Русак, В. Кіпель, а. А. Яноўскі, П. Кажура.

У канцы бяседы сп. Пётра Нядзьведзкі прасьпяваў пад акардыён колькі беларускіх жаўнерскіх песьняў, у тым ліку песьні свайго аўтарства й кампазыцыі, ведамую «Ідуць жаўнеры-Беларусы» ды новую «Вэтэранскую песьню».

**А. Ш.**



# ЗЬ БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў ЧЫКАГА

Беларускі Каардынацыйны Камітэт гораду Чыкага, апрача ладжаньня штогадовых нацыянальных беларускіх імпрэзаў, як адзначэньне Дня 25 Сакавіка, угодкаў Слуцкага Паўстаньня ды інш., вядзе таксама шырокую нацыянальна-рэпрэзэнтацыйную дзейнасьць ды ў меру магчымасьці імкнецца прыцягнуць да грамадзкай працы маладое пакаленьне. Гэтак, прыкладам, сёлета асноўны рэфэрат, прысьвечаны Сакавіковаму сьвяту, чытаў паанглійску сп. Вальтэр Жызьнеўскі, актыўны сябра Арганізацыі Моладзі.

Сёлета Беларускі Каардынацыйны Камітэт Чыкага браў актыўны ўдзел у адзначэньні тыдня Паняволеных Народаў. Праграма тыдня была ладна пашыраная, у ўрачыстасьцях узялі ўдзел сёлета ня толькі прадстаўнікі паняволеных народаў, а таксама шырокае кола Амэрыканцаў разам з кангрэсмэнам Гэнры Гайдам. Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага на імпрэзах Тыдня паняволеных Народаў выстаўляў вялікі плякат у ангельскай мове аб трагэдыі на беларускіх землях, спрычыненай выбухам на атамнай электрастанцыі ў Чарнобылі.

27 верасьня сп-тва Вітаўт і Вера Рамукі ўзялі ўдзел, як прадстаўнікі беларускіх рэспубліканцаў, у гадавым сходзе Рэспубліканскае Нацыянальнае Арганізацыі штату Іліной. Сп-ня Вера Рамук азнаёміла зь бягучымі беларускімі праблемамі прадстаўніка Белага Дому, які быў на сходзе.

Ад імя Беларускага Каардынацыйнага Камітэту сп-ня Вера Рамук выслала І-га кастрычніка сёлета даўжэйшы ліст прэзыдэнту ЗША Рэйгану, выказаўшы ў лісьце свае думкі што да сустрэчы Прэзыдэнта ў Рэйк'явіку з савецкім лідэрам Гарбачовам. У лісьце гаворыцца аб патрэбе большае свабоды падарожжаў паміж Амэрыкай і Савецкім Саюзам, шырэйшага культурнага абмену ЗША з саюзнымі рэспублікамі, спыненьня глушэньня перадачаў радыё «Свабода» ды ўвядзеньня беларускае мовы ў перадачы «Голасу Амэрыкі».

Штагоду ў кастрычніку ў культурна-грамадзкім цэнтры гораду Чыкага адбываюцца выстаўкі народных промыслаў, у якіх Беларусаў заўсёды рэпрэзэнтуе сп-ня Тэрэза Тарасэвіч. Сп-ня Тарасэвіч дэманструе беларускае ткацтва.

У чыкагаўскім Музэі Навукі й Індустрыі штагоду ў лістападзе запальваецца калядная ялінка, якая праз увесь калядны сэзон карыстаецца вялікім посьпехам у сотняў тысячаў наведвальнікаў. Ад даўжэйшага часу ў арганізацыі праграмы для ялінкі бярэ ўдзел Беларускі Каардынацыйны Камітэт. Удзельнічалі ў праграме летась і рыхтуюцца да сёлятняе праграмы сп-ня Вера Рамук, Тэрэза Тарасэвіч, Воля Шукініха, сп-тва Жызьнеўскія, сп-тва Бяленісы, сп. Станіслаў Бочак ды іншыя.

У беларускай каталіцкай царкве Хрыста Збаўцы ў Чыкага штонядзелі адпраўляе Божыя Службы а. МэкДональд.

# ФЭСТЫВАЛЬ СЛАВЯНСКАЕ КУЛЬТУРЫ Ў НЬЮ-ЁРКУ

СЫМПОЗІЮМ

Фэстываль славянскае культурнае спадчыны адбываецца ў Нью-Ёрку штагоду. У ім бяруць удзел Баўгарцы, Беларусы, Македонцы, Палякі, Расейцы, Славакі, Славэнцы, Сэрбы, Украінцы й Чэхі. Сёлета фэстываль трываў ад 18-га да 30 кастрычніка. У праграме былі выстаўкі, сымпозіюм, вечары мастацкіх выступленьняў. Агульнай тэмай фэстывалю было 100-годзьдзе Статуі Свабоды. Мэр гораду Эдвард Кач і губэрнатар штату Марыё Кўомо выдалі адпаведныя праклямацыі. Адбыўся сымпозіюм на тэму: «Амэрыканскія Славяне ў пошуках вызначэньня свае культурнае спадчыны». Былі прачытаныя даклады: «Праблемы й дадытныя бакі інтэграцыі культурных традыцыяў у агульнаамэрыканскую культуру», «Спосабы перахаваньня ды важнасьць утрымоўваньня двумоўнасьці сярод Славянаў у Злучаных Штатах Амэрыкі», «Шуканьне каранёў паходжаньня: як акрэсьліць і перамагчы цяжкасьці» ды «Будучыня славянаведных дасьледаваньняў у Амэрыцы».

Цікава на сымпозіюме гаварыў прафэсар палітычнае эканоміі Ньюёркаўскага Ўнівэрсытэту Вальтэр Зарыцкі аб важнасьці супольнага палітычнага славянскага прадстаўніцтва ў Вашынгтоне ды аб патрэбе большага ўдзелу славянскіх народаў у мясцовым палітычным жыцьці Амэрыкі. Старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва др. Вітаўт Кіпель прачытаў даклад на тэму: «Увядзеньне славянаznаўства ў школьныя праграмы Злучаных Штатаў». Дакладчык адзначыў прагрэс у гэтай дзялянцы ў штатах з высокім працэнтам славянскага жыхарства. Абодвы дакладчыкі, праф. В. Зарыцкі й др. В. Кіпель, падкрэсьлілі, што апошнім часам справай славяназнаўства ў Амэрыцы цікавяцца куды больш як раней.

Прафэсар Міхал Зарэчняк з Джорджтаўнскага Ўнівэрсытэту ў Вашынгтоне, гаворычы пра славянска-ангельскі білінгвізм, адзначыў вышэйшую пасьпяховасьць студэнтаў, якія валодаюць дзьвюма мовамі, ды значна большыя магчымасьці двумоўных студэнтаў у будучай кар'еры. Прыгэтым, зазначыў праф. Зарэчняк, Злучаным Штатам цяпер патрэбныя спэцыялісты ня толькі з расейскай мовай, але й зь веданьнем меншых славянскіх моваў: украінскае, беларускае ды іншых.

Праф. Вальтэр Зарыцкі у сваім другім дакладзе гаварыў таксама пра важнасьць перахоўваньня славянскіх моваў, асабліва моваў беларускае і ўкраінскае, бо, як сказаў ён, «у выніку савецкае нацыянальнае палітыкі на Беларусі й на Ўкраіне беларуская і ўкраінская мовы моцна загрожаныя». Дакладчык пацьвердзіў гэта матар'яламі зь беларускага савецкага друку, зь якіх відаць, як беларуская мова ў БССР выцiснутая з гарадзкіх школаў ды на чарзе стаяць і школы сельскія.

У дыскусіі пасьля рабіліся спасылкі на добра апрацаваны англамоўны артыкул супрацоўніка дасьледніцкага аддзелу радыястанцыі «Свабода» Рамана Салчаніка пра беларускую мову. У сваім артыкуле сп. Салчанік дае агляд выступленьняў у друку БССР (пры гэтым называе й самвыдавецкую кнігу Алега Бембеля) на абарону беларускае мовы.

ВЫСТАЎКА АБРАЗОЎ

У выстаўцы, арганізаванай з нагоды фэстывалю, узяло ўдзел больш за дваццаць мастакоў, у тым ліку й двое беларускіх: Пётра Мірановіч і Тамара Стагановіч-Кольба (Ст. Тамара).

Міраковіч паказаны на выстаўцы ягоным шырака спапулярызаваным у друку малюнкам групы беларускіх імігрантаў у ньёрскай гавані на фоне Статуі Свабоды.

Ст. Тамара прадстаўленая сваім новым трыптыхам «Надзея-Любоў-Вера», адмыслова створаным да 100-годзьдзя Статуі Свабоды. Мастачка гэтак красамоўна вытлумачыла нам ідэю свайго глыбокага канцэпцыяй твору:

«НАДЗЕЯ. Найглыбейшай надзеяй і жаданьнем нашым па вайне было выехаць у Амэрыку, краіну Свабоды — далей ад страху вайны, далей ад трагедыяў нашага часу ў Эўропе. Лятуценьні й надзея зьдзейсьніліся. Мы ступілі на зямлю Свабоды, дзе сустрэла нас Статуя Свабоды. Перад усходам сонца, з ружовага туману, з вады павольна пачала набліжацца да нас, пакзавацца Статуя Свабоды, як нейкая рэлігійная паява. Гэтае ўражаньне застанецца мне на ўсё жыцьцё».

«Хутка зьдзейсьнілася й другая надзея — гэта надзея пусьціць карэньне ў свабодную глебу Амэрыкі, пачаць новую старонку жыцьця, жыцьця грамадзянкі, забыцца пра стан эмігранта, жаданьне належаць да дзяржавы, да вольнае свае дзяржавы, як уяўляла яе сабе, калі-б была вольная Беларусь. «ЛЮБОЎ.З удзячнасьці я люблю Амэрыку-Свабоду. Першыя ўражаньні ў мяне, калі я сталася амэрыканскай грамадзянкай, былі раздвоеныя, а можа навет быў і страх здрады Беларусі. Але-ж Беларусь заграбленая чужынцамі! Дык яе трэба яшчэ больш любіць! Гэтае колішняе раздвоеньне зьлілося ў адно пачуцьцё — любоў бытавая й любоў сьвятая як-бы збалянсаваліся. Статуя Свабоды ды Амэрыка — гэта адно цэлае. Калі гляджу на аблічча Свабоды, бачу твары нашых жанчын: Еўфрасіньні Полацкае, іконныя абліччы сьвятых, сумныя аблічы нашых матак, поўныя спачуваньня й перажываньняў ад часоў даўнае гістарычнае мінуўшчыны да сёньняшняга дня.

«ВЕРА. Гэта вера ў свабодную Беларусь, якая паняволеная сёньня. Пачуцьцё гэтае ня згасьне ніколі, колькі-б часу ні мінула, бо яно йдзе ад заўсёды сьвежае, чыстае любові да Свабоды. Ідэя Свабоды — сусьветная.

Для мяне Статуя Свабоды — жывы сымбаль гэтых трох пачуцьцяў».

КАНЦЭРТ

Вялікі канцэрт у праграме фэстывалю адбудзецца пазьней, 31 студзеня 1987 г.. У ім возьмуць удзел і Беларусы (гл. абвестку ніжэй).

**КАНЦЭРТ!**

**Рада Славянскае Культурнае Спадчыны ў Амэрыцы ладзіць фэстываль народных танцаў і музыкі ў залі імя Алісы Тулі Лінкольнскага Цэнтру Мастацтваў у Мангэтэне 31 студзеня 1987 году (пачатак: а 7-й гадз. ўвечары).**

**У канцэрце возьмуць удзел беларускі танцавальны ансамбль «Васілёк» і сьпявак Багдан (Данчык) Андрусышын.**

**Цана білетаў: 10 дал. і 12 дал.**

# НА ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. Ул. Набагез (заміж кветак на магілу с.п.а. Р. Ван Каўэлярта) | ам.дал. | 100 |
| 2. З. М. | | 100 |
| 3. Б. Прытыцкі | | 100 |
| 4. К. Мерляк | | 80 |
| 5. К. Ворт | | 40 |
| 6. М. Смаршчок | | 40 |
| 7. А. Чарнэцкая | | 40 |
| 8. Сп-ня Хмыз | | 30 |
| 9. М. Возьняк-Гаўрылюк | | 30 |
| 10. Б. Дубоўскі | | 25 |
| 11. М. Грэбень | | 25 |
| 12. Л. Дуржэнка | | 25 |
| 13. Л. Кавалёў | | 20 |
| 14. Д. Ясько | | 20 |
| 15. Б. Ковель | | 20 |
| 16. В. Ракуць | | 20 |
| 17. М. Калядка | | 20 |
| 18. Н. Захаркевіч | | 20 |
| 19. Н. Лапушынскі | | 15 |
| 20. В. Зарэцкі | | 15 |
| 21. Ч. Найдзюк (заміж кветак на магілу с.п. С. Ярашэвіч) | | 20 |
| 22. Ф. Сах | | 50 |

*Ахвяраванае на 17-й Сустрэчы Беларусаў Пн. Амэрыкі:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. Л. і А. Бяленіс | | 150 |
| 2. М. і В. Махнач | | 100 |
| 3. Б. Рагуля | | 50 |
| 4. З. Смаршчок | | 50 |
| 5. В. і Ф. Бартуль | | 50 |
| 6. К. Мерляк | | 30 |
| 7. а. А. Надсон | | 25 |
| 8. Арх. Мікалай | | 20 |
| 9. А. Шукелайць | | 20 |
| 10. Я. Каваленка | | 20 |
| 11. Р. Жук-Грышкевіч | | 20 |
| 12. М. Войтанка | | 20 |
| 13. З. і В. Кіпель | | 20 |
| 14. А. Акановіч | | 20 |
| 15. А. Монід | | 20 |
| 16. В. і В. Рамук | | 20 |
| 17. В. і Г. Русак | | 20 |
| 18. Ул. Бакуновіч | | 20 |
| 19. П. Палацкі | | 20 |
| 20. В. Касьцюкевіч | | 20 |
| 21. К. Акула | | 20 |
| 22. Ю. Корчык | | 20 |
| 23. К. Ворт | | 20 |
| 24. Л. і Л. Норык | | 20 |
| 25. Н. Арсеньнева | | 20 |
| 26. Ананімныя | | 19 |
| 27. В. Кажан | | 15 |
| 28. Ю. Андрусышына | | 10 |
| 29. М. Белямук | | 10 |
| 30. К. Бануты | | 10 |
| 31. М. Кумэйша | | 10 |
| 32. а. Карп Стар | | 10 |
| 33. П. Барысік | | 10 |
| 34. А. Таркевіч | | 10 |
| 35. В. М. Богдан | | 10 |
| 36. А. Шэршуновіч | | 10 |
| 37. С. Прахарук | | 10 |
| 38. А. Стрэчань | | 10 |
| 39. М. Наўмовіч | | 10 |
| 40. С. Шабовіч | | 10 |
| 41. а. А. Яноўскі | | 10 |
| 42. Л. Стагановіч | | 10 |
| 43. М. Тулейка | | 10 |
| 44. В. З. | | 10 |
| 45. М. С. | | 10 |
| 46. К. Каляда | | 10 |
| 47. А. Ярахавіч | | 10 |
| 48. А. Субота | | 10 |
| 49. А. Міцкевіч | | 10 |
| 50. А. Міцкевіч | | 10 |
| 51. А. Койка | | 10 |
| 52. Я. Раковіч | | 5 |
| 53. а. Страпко | | 5 |
| 54. Э. Зузёлька | | 5 |
| 55. В. Страпко | | 5 |
| 56. Э. Ярахавіч | | 5 |
| 57. У. Трусэвіч | | 5 |
| 58. В. Савіч | | 5 |
| 59. М. Калядка | | 5 |
| 60. А. Катовіч | | 2 |
| 61. М. А. Лукашэвіч | | 2 |
| 62. М. Шэрбан | | 2 |
| 63. Г. Маталыцкі | | 2 |
| 64. А. Мелінышын | | 2 |
| | Разам | 1139 |
| 65. М. Ганько | кан.дал. | 50 |

*Падпіска на газэту праз сп. Б. Даніловіча:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. Б. Даніловіч | | 25 |
| 2. П. Кажура | | 25 |
| 3. А. Субота | | 20 |
| 4. В. Пелеса | | 20 |
| 5. Д. Дзядовіч | | 20 |
| 6. Я. Азарка | | 20 |
| 7. В. Дубяга | | 20 |
| 8. М. Мядзейка | | 15 |
| 9. А. Непейн | | 15 |
| 10. В. Харавец | | 15 |
| 11. Л. Шурак | | 15 |
| 12. Ю. Азарка | | 15 |
| 13. Я. Літвіненка | | 15 |
| 14. А. Койка | | 15 |
| 15. Я. Сапежынскі | | 10 |
| 16. Я. Місюль | | 10 |
| 17. А. Балкоўскі | | 8 |
| 18. П. Нядзьведзкі | | 5 |
| | Разам | 288 |

**БЭЛЬГІЯ**

*Праз сп. П. Барысіка:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. М. Валетаў | б.фр. | 1000 |
| 2. З. Смаршчок | | 1000 |
| 3. П. Барысік | | 500 |
| | Разам | 2500 |
| | у ам.дал. | 59 |

**ШВАЙЦАРЫЯ**

| | | |
|---|---|---|
| Я. П. Лёхар | ам.дал. | 15 |

**АЎСТРАЛІЯ**

*З Сыднэю праз сп. К. Сіткоўскага:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. М. Антух | аўст.дал. | 20 |
| 2. Я. Гавенчык | | 20 |
| 3. В. Ліпскі | | 10 |
| 4. С. Нарушэвіч | | 20 |
| 5. А. Бакуновіч | | 20 |
| 6. Б. Стукач | | 20 |
| 7. сп-ня А. Грыц | | 20 |
| 8. О. Качан | | 20 |
| 9. М. Лужынскі | | 20 |
| | Разам | 170 |
| 10. М. Зуй | | 20 |

*З Адэляйды праз. сп. У. Акавітага:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. Е. Трысмакова | аўст.дал. | 30 |
| 2. П. Пачопка | | 30 |
| 4. М. Костышын | | 25 |
| 5. В. Зеленеўскі | | 25 |
| 6. В. Міленцэвіч | | 30 |
| 7. З продажу газэт | | 30 |
| | Разам | 200 |
| 8. Я. Ролсан (за клішы) | ам.дал. | 24 |

*З Мэльбурну:*

| | | |
|---|---|---|
| М. Скабей | аўст.дал. | 10 |

**КАНАДА**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Дж. Харэвіч | ам.дал. | 35 |
| 2. В. Навіцкі | | 25 |
| 3. М. Шуст | | 10 |
| | Разам | 70 |

**УВАГА!!!! УВАГА!!!!**

Асобы, якія атрымваюць газэту «Беларус» ад сп. Б. Даніловіча, павінны перасылаць яму-ж і належнасьць за газэту. Чэк трэба выпісваць на ягонае прозьвішча ды перасылаць на адрас:

**B. Danilovich**
**303 Howard St.**
**New Brunswick, NJ 08901**

**Адміністрацыя газ. «Беларус»**

*ПРЫВІТАЙЦЕ СВАІХ СЯБРОЎ І ЗНАЁМЫХ З КАЛЯНЫДМІ Й НАВАГОДНІМІ СЬВЯТАМІ ПРАЗ ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС», як гэта шмат хто рабіў папярэднімі гадамі. Пашлеце праз газэту ўсім сваім прыяцелям найлепшыя пажаданьні, а выдавецтву «Беларус» — пасільны грашовы калядны падарунак на падтрыманьне друкаванага Беларускага Слова!*

*Рэдакцыя «Беларуса»*

## СЬВ. † ПАМ. СЯРГЕЙ АПАЦКІ



**Нарадзіўся 30 травеня 1931 г. недалёка ад Менску, адыйшоў на вечны супачынак 10 травеня 1986 г. ў Мэнтары, што каля гор. Кліўленду, штат Агаё, ЗША. Пахаваны на Мэнтарскім магільніку, пра што з глыбокім сумам паведамляе**

**Жонка Ніна зь дзецьмі Галінай і Аляксандрам**

Сьв. пам. Сяргей Апацкі нарадзіўся недалёка ад Менску. Дзіцячае жыцьцё правёў сумна, бо ў 1932 г. НКВД арыштавала ягонага бацьку за непадпарадкаваньне камуністычным уладам і выслала ў лягер у Караганьдзе на Сібіры, дзе прабыў 11 гадоў. У 1943 г. падчас нямецкае акупацыі бацька вярнуўся дамоў, аднак радасьць доўга ня трывала, бо хутка Апацкія былі вывезеныя ў Усходнюю Прусію, дзе працавалі на фэрмах, параськіданыя паасобку. Пазьней сям'я была перавезена ў заходнюю Нямеччыну, у Франкфурт, дзе дачакалася прыходу амэрыканскага войска.

У 1949 г. прыехалі ў ЗША і спачатку затрымаліся ў Паўночнай Караліне на фэрме, а пазьней пасяліліся насталa ў невялікім горадзе Мэнтары ў штаце Агаё недалёка ад Кліўленду. Сяргей адслужыў у амэрыканскім войску, ажаніўся.

Нябожчык Сяргей, прайшоўшы цяжкі жыцьцёвы шлях, не заламаўся ані палітычна ані маральна. Ён быў добрым Беларусам, патрыётам, ад пачатку заснаваньня беларускае калёніі ў Кліўленьдзе падтрымоўваў грамадзкую дзейнасьць да апошняга часу. Належаў да многіх арганізацыяў, як Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, падтрымоўваў БАПЦ, грамадзкі цэнтар Полацак, браў удзел ва ўсіх імпрэзах, хоць жыў за Кліўлендам. Вялікаю дапамогаю й патрымкаю ў ягонай актыўнасьці была добрая й спрыяльная жонка Ніна.

Сьв. пам. Сяргей Апацкі памёр пасьля апэрацыі на рака. Пакінуў у смутку маці Крыстыну (94-гадовую), жонку Ніну, дзяцей Галіну й Аляксандра, сястру Марыю і ўнукаў. Пахаваны на Мэнтарскім магільніку недалёка ад магілы бацькі. Парафіяне беларускае царквы й наагул беларуская калёнія ў Кліўленьдзе за ягоную працу, сяброўства масава ўшанавалі Нябожчыка сваёй прысутнасьцю як у царкве на службе, так на могільніку. Беларускія вэтэраны ганарова адправілі свайго сябру, накрыўшы труну беларускім сьцягам, якія пазьней уручылі жонцы, а ў канцы усе разам адсьпявалі яму жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў».

Няхай Табе, Сябра, будзе лёгкай Амэрыканская зямля й няхай сьняцца родныя нівы Меншчыны.

**Сябра**

## ІГНАТ БУЙНІЦКІ

*(Заканчэньне з б. 1-й)*

бываўся працэс ператварэньня аматарскай трупы ў прафэсіянальны тэатр».

Увесну 1910 году тэатр Буйніцкага адкрывае гастрольную паездку па Беларусі. У рэпэртур тэатру ўвайшлі камэдыя Каруся Каганца «Модны шляхцюк», вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Богдановіча, Альбэрта Паўловіча, народныя песьні, скокі. Аб тым, што Ігнат Буйніцкі надаваў вялікае значэньне ролі нацыянальнага тэатру ў фармаваньні самасьвядомасьці Беларусаў, сьветчыць і тое, што ён актыўна спрычыняўся да разьвіцьця іхнае творчасьці. Як адзначаў Дзяніс Крывадубаў, актор «Першай беларускай трупы», Буйніцкі, «куды-б ні прыехаў, усюды імкнуўся ствараць мясцовыя калектывы местацкай самадзейнасьці, праводзіў першыя заняткі зь імі, пакідаў рэпэртуар».

Слава аб тэатры Буйніцкага ўсьцяж расьце і 15 лютага 1911 г. трупа выступае ў Пецярбургу ў клюбе «Пальма». На канцэрце быў і янка Купала, які напісаў пасьля пахвальную рэцэнзію ў газэту "Наша Ніва" ды прысьвяціў Буйніцкаму цудоўны верш.

25 чэрвеня 1911 г. пачынаецца другое гастрольнае падарожжа трупы Буйніцкага па Беларусі. Выступленьні цяпер адбываюцца ў Менску, Слуцку, у шматякіх мястэчках і вёсках. У гэтым часе трупа папаўняецца таленавітымі акторамі. Спэктаклі хвалявалі гледача, пра што сьветчаць шматлікія рэцэнзіі й водгукі ў «Нашай Ніве», «Минском Слове», «Вестнике Знания» ды іншых. Другога студзеня 1913 г. трупа Буйніцкага выступіла і ў Варшаве.

Дзейнасьць «Першай беларускай трупы» абмяжоўвалася аднак вельмі сьціплымі матэр'яльнымі магчымасьцямі. Грашовы фонд тэатру складаўся з асабістых сродкаў Буйніцкага ды з даходаў ад збораў, што было зусім недастаткова для шырэйшае дзейнасьці. Калі-ж справы сталі зусім дрэнныя, Буйніцкі прадаў свой фальварак. Але хутка пачалася вайна і тэатр спыніў працу.

Пра апошнія гады жыцьця Ігната Буйніцкага мала што ведама. Ёсьць даныя, што на пачатку 1917 году ён браў актыўны ўдзел у стварэньні «Першага таварыства беларускай драмы і камэдыі». Аднак актыўна папрацаваць у «Таварыстве» яму не давялося. У верасьні 1917 году неспадзяваная сьмерць — параліч сэрца — спыніла ягонае жыцьцё.

Ігнат Буйніцкі быў чалавекам вялікай энэргіі, і ўсе сілы аддаваў арганізацыі тэатру, на абуджэньне нацыянальнай самасьвядомасьці беларускага народу, прапагандзе беларускай мовы і літаратуры ў шырокіх масах народу, імкнуўся захапіць гэтай ідэяй усіх, хто зь ім працаваў. Ён быў выдатны арганізатар, таленавіты камэдыйны актор, неперасўзыйдзены выканаўца беларускіх народных танцаў. Буйніцкага з поўнай падставай можна называць «бацькам новага беларускага прафэсійнага тэатру». Ягоныя дасягненьні паслужылі той творчай асновай, на якой у далейшым разьвівалася нацыянальнае беларускае сцэнічнае мастацтва.

**Язэп Барэйка**

# СЬВ. ПАМ. АЙЦЕЦ Я. СІТНІК

**(4.VII.1927-29.VIII.1986)**

З жалем і смуткам паведамляем, што 29 жніўня сёлета ў гор. Адэляйдзе ў Аўстраліі раптоўна адыйшоў на вечны супачынак дарагі й вельмі паважаны айцец Яўген Сітнік.



*Айцец Я. Сітнік у часе службы.*

Айцец Яўген нарадзіўся 4 ліпеня 1927 г. ў в. Валынка на Беларусі. Ваенныя падзеі 1939 й 1941-44 гадоў не далі магчымасьці маладому хлапцу дасягнуць жаданага. У часе вайны турбавала яго або нямецкая паліцыя або партызаны, і ўрэшце настала дэпартацыя ў Нямеччыну ў лягер «остарбайтэраў».

скарбніка.

У сувязі з раптоўным ад'ездам з нашай парафіі ў Сыднэй нябожчыка а.Георга, настаяцеля парафіі, царква заставалася без сьвятара. Яўген Сітнік, як беларускі патрыёт, даў згоду стацца сьвятаром нашай парафіі. 30 ліпеня 1978 г. Архіепіскап БАПЦ Мікалай рукапалажыў Яўгеня Сітніка ў сан сьвятара.

Нябожчык быў сумленны і адданы сьвятар, ён не запарушыў нікому вока, за што ўсе яго любілі і паважалі, і ён застанецца ў нашых сэрцах і памяці на даўгія гады. Ягоны адыход на вечны супачынак — гэта вялікая страта ня толькі для сам'і й сваякоў, але й для ўсіх Беларусаў Паўдзённай Аўстраліі.

Айцец Жылінскі (з Украінскай Царквы) адправіў пахавальныя багаслужбы 31-га жніўня, 1-га й 2-га верасьня, а ў панядзелак 1-га верасьня было адпяваньне ў беларускай царкве ў суслужэньні трох сьвятароў: Міт. Прат. а.Кулакоўскага (БАПЦ), а.Жылінскага й а.Пятковіча (ад Сэрбскай Царквы). Наша сьвятыня была перапоўнена, палова людзей стаяла на дварэ.

Нябожчык пахаваны на Чэнтальгаймскім могільніку. Над магілай у часе пахаваньня цёплую прамову сказалі а.Жылінскі й а.Кулакоўскі, ад парафіі прамаўляў сп. Бурнос і ад Беларускага Аб'яднаньня сп. Ролсан.

У прыцаркоўнай залі адбыўся памінальны абед, на якім таксама людзі не зьмяшчаліся ў залі, што сьветчыць пра пашану да Нябожчыка.

Сьв. пам. а.Яўген пакінуў у смутку: матушку Марыю, сына Аляксандра, дачку Яўгеню, нявестку Марыю, зяця Ўладзіміра, адну ўнучку і трох унукаў, ды асірацела й наша Беларуская Царква і беларуская грамада.



*Адпяваньне Нябожчыка ў царкве, у якой ён служыў.*

По сканчэньні вайны Яўген Сітнік застаецца ў Нямеччыне, жыве ў лягеры ДП. Адтуль эміграваў у Паўдзённую Аўстралію, дзе хутка ажаніўся з дачкою сьвятара нябожчыка а.Шчурка ды быў шчасьлівы ў сужэнстве на працягу трыццаці гадоў.

З пачуцьця патрыятычнага абавязку далучыўся да беларускай грамады, актыўна дапамагаў у будаўніцтве царквы ў Адэляйдзе, быў абраны ў парафіяльную раду й выконваў функцыю

Выказваем глыбокае спачуваньне матушцы Марыі й сям'і. Дарагому-ж а.Яўгеню вечная памяць. Спачывай, дарагі брат, там, дзе ўсе праведнікі спачываюць, хай будзе Табе пухам Аўстралійская зямелька.

**Беларускае Аб'еднаньне ў Паўдзённай Аўстраліі і Парафіяльная Рада парафіі Сьв. Ап. Пятра і Паўла.**

# СЬВ. ПАМ. МАТУШКА К. АБАБУРКА

**(4.XI.1921-29.VIII.1986)**

Матушка Кацярына паходзіла зь сялянскай сям'і, нарадзілася 4 лістапада 1921 г. ў вёсцы Мораг, Клецкага павету.

Маючы 16 гадоў жыцьця, належала да царкоўнага хору. У 1940 г. выйшла замуж за Яна Абабурку. У іх у 1942 г. нарадзіўся сын, якому далі імя Мікалай. Нажаль, радасьць трывала ня доўга, ваеныя падзеі разлучылі іх з мужам і яна засталася з сваім сынком.

Сын Мікалай, на якога пакладала надзею дапамогі ў яе старасьці, маючы 24 гады, загінуў трагічнай сьмерцю. Маці Кацярына занікла духова й фізычна, нават камісія лекарская залічыла яе да групы інвалідаў. У гэтым часе а.Ян, жывучы ў Ангельшчыне, пачаў рабіць захады, каб сьцягнуць жонку да сябе, і дзякаваць Богу й добрым людзям гэта зьдейсьнілася. У сьнежні 1967 г. матушка Кацярына прыбыла ў Англію.

Матушка Кацярына па некаторым часе ажыла духова і ўзмоцнілася фізычна, яна не абмяжоўвалася толькі заняткамі свайго сямейнага жыцьця, яна аддавала ўсе свае сілы й здольнасьці для дабра царквы, вышывала ўзоры на ручнікох, выплятала карункі, і кожную ікону атуляла такімі ручнікамі. Матушка была таксама выдатнай памочніцай а.Яна ў Божых службах.

Хоць здароўе ня было зайздросным, аднак яна заўсёды была вясёлая, гасьцінная, хто-б ні завітаў да іхнай хаты. Ня суджана ёй было аднак прадоўжыць зямное жыцьцё. Па волі Божай 29 жніўня 1986 г. сэрца матушкі Кацярыны перастала біцца. Нябожчыца пакінула ў вялікім смутку а.Яна, а ў Беларусі сястру, братоў зь сем'ямі, унучку й праўнука.

Сьв. Літургію й адпяваньне адслужыў Прат. а.Ян Пекарскі (сьвятар БАПЦ) у суслужэньні Мітр. Прат. М. Хутарнага і Прат. А. Максымука (сьвятары УАПЦ).

Паховіны адбыліся 5 верасьня 1986 г. на Саўтгэнскім могільніку ў Манчэстэры.

На разьвітаньне прыбыло шмат людзей, ня толькі Беларусаў, але й прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, якія знаві Нябожчыцу.

Дык сьпі, дарагая матушка Кацярына, сном спакойным, хай будзе Табе лёгкай Ангельская зямелька ды сыніцца любая Маці-Беларусь.

Вечная памяць.

## ПАДЗЯКА

Атрымаўшы вялікую колькасьць спачуваньняў з прычыны сьмерці спадарожніцы майго жыцьця матушкі Кацярыны, я ня ў стане падзякаваць кожнаму асабіста. Дзеля гэтага вось гэтай дарогай перасылаю маю шчырую падзяку ўсім за малітвы, спачуваньні, перасланыя лістоўна, выказаныя асабіста, ды за рознага роду дапамогу.

Шчыра, шчыра дзякую.

**Мітр. Прат. Ян Абабурка**

# СЬВ. ПАМ. ПЁТРА ПЕЦЬКО

**(29.VI.1903-25.IX.1986)**

Пётра Пецько нарадзіўся 29.VI.1903 г. на хутары Гнілыя Балоты каля Пагоста, Дзісьненскага павету. У сям'і было трох братоў і дзьве сястры. Усе жылі спакойным жыцьцём на сваёй гаспадарцы. У часох апошняй вайны Пётра браў актыўны ўдзел у абароне сваіх вёсак і хутароў ад камуністычных партызанаў. У 1944 апынуўся ў Нямеччыне, быў у Беларускай Брыгадзе.

Па сканчэньні вайны ў 1945 г. кароткі час быў палонным амэрыканскай арміі. Па звальненьні з палону асяліўся ў Амэрыканскай Зоне Нямеччыны ў беларускім лягеры ў Остэргофэне ў Баварыі. У 1950 г. прыбыў у Злучаныя Штаты Амэрыкі, трапіў у штат Аклягома да амэрыканскага фармэра. У 1953 г. перабраўся з Аклягомы ў Стамфард, штат Канэктыкэт, да сваіх землякоў, уладзіўся на працу ў гаспадарчым аддзеле ў вельмі добрай фабрыцы, дзе й працаваў да чэрвеня 1972 г., калі стаўся пэнсіянерам. Ад 1979 г. жыў у гарадзкім старэчым доме, дзе меў вельмі добрую апеку.

Нябожчык пахаваны на могілках Вудленд у Стамфардзе. Абрад паховінаў адправіў а. Усевалад Шэмеціла з праваслаўнай царквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле ў Нью-Ёрку, да якой Нябожчык належаў.

Пётра Пецько, сьціплы беларускі селянін, быў ахвярным чалавекам, які ніколі не шкадаваў грошай, каб дапамагчы беларускай Праваслаўнай Царкве й кожнай беларускай арганізацыі. Ведама, што высылаў ён дапамаговыя пачкі ў Беларусь і ў Польшчу сваім блізкім крэўным ды шмат іншым, часта мала знаёмым людзям. Любіў казаць: «Хай ведаюць, што я жыву ў вольнай краіне — Амэрыцы».

Вечная памяць дарагому земляку.

**В. Кажан**

# СЬВ. ПАМ. МІКОЛА ХМЫЗ

**(27.III.1907-8.IX.1986)**



Беларуская калёнія ў Лёс-Анджэлесе страціла 8 верасьня 1986 г. свайго шматгадовага сябру сьв. пам. Міколу Хмыза, які памёр пасьля цяжкай і доўгай хваробы. Паніхіда па Нябожчыку была адслужаная 13 верасьня ў украінскай каталіцкай царкве ў Галівудзе. У царкве й парафіяльнай залі на памінках суродзічы-Беларусы ды іншыя выказвалі сям'і Нябожчыка — удаве й сыну з жонкай і дзецьмі — спачуваньні, дзяліліся ўспамінамі пра памерлага.

Мікола Хмыз нарадзіўся ў Менску, дзе ў гадох вайны ён быў ведамым грамадзкім працаўніком. На эміграцыі Нябожчык увесь час цікавіўся беларускім жыцьцём, падтрымваў беларускую актыўнасьць у Лёс-Анджэлесе, быў сталым падпішчыкам газэты «Беларус». Працаваў на заводзе дакладных прыладаў, жыў у сваім доме ў Паўночным Галівудзе, любіў шмат падарожнічаць, наведваць сваіх прыяцеляў.

Вечная яму памяць.

**Ч. Н.**

## ПЕРАВЫДАДЗЕНАЕ ЭВАНГЕЛЬЛЕ

Новы Запавет і Псальмы ў перакладзе А. Луцкевіча (Лёндан, 1948) перавыдадзеныя Глабальным Місіянерскім Радыёслужэньнем.

Зварачацца на адрас:

Global Missionary Radio Ministries
Box 303, Station D
Toronto, Ont M6P 3J9
CANADA